

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

8 мая 1998 г. № 19/3947 Кошт 4 000 руб.





# Надзея з "Белага дома"

"Я — артыстка, я — загадка..." Слушна. Гучыць, як эпіграф. Нездарма ж гэтай песняй пачынала сваю сустрэчу з публікай гераіня бенефісу. Праўда, эпіграфам да яго сталіся радкі з іншай песні: "Мая спеўная душа не стамляецца..." Таксама слушна! І ў гэтым жа таксама яна — артыстка, загадка. Хаця загадкавай артысткай яе не называлі, здаецца, ніколі. А між тым...

Між тым: хіба не загадка — ейны творчы лёс?

У "Чараўніцах" пачынала. У складзе "Верасоў" зведала гонар лаўрэата Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады. Як сольная выканаўца 15 гадоў таму атрымала дыплом Усесаюзнага конкурсу артыстаў эстрады і адзіны спецыяльны прыз за лепшую апрацоўку народнай песні. Выступала ў Балгарыі, Бельгіі, Германіі, Лаосе, Сірыі, Чэхіі, Славакіі, Фінляндыі, Польшчы, у краінах СНД. Павандравала (і вандруе) па ўсёй Беларусі, дзе шматлікія прыхільнікі ўспрымаюць і прымаюць яе як сапраўдную народную артыстку. А яна — во дзіва! — нават заслужанай артысткі Беларусі звання не мае.

Ох ужо тыя званні: дадуць — не дадуць... Такой бяды! Галоўнае, мае яна іншае, тое, што Богам даецца і лёсам. Талент спявачкі. Вялікую добрую душу. Шчырыя вочы. Таварыскасць і ўменне сябраваць. Сваю публіку. Любоў блізкіх. Мае імя: Надзея МІКУЛІЧ.

*(Працяг на стар. 2)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Першамай і Дзень Перамогі своеасаблівым чынам павязаны. Кажуць, Галоўнакамандуючы загадаў, каб традыцыйны першамайскі парад на Краснай плошчы стаў парадам Перамогі. А паколькі сталінскія загады і нават пажаданні выконваліся якім заўгодна коштам, Берлінская аперацыя стала для Чырвонай Арміі грандыёзным кровапусканнем — і ўсё роўна не паспелі... Такія страты ў час, калі вораг фактычна пераможаны, вайна, лічы, скончана і нікуды той Берлін ад Чырвонай Арміі не падзенецца, нельга растлумачыць звычайнай логікай і апраўдаць ваеннай неабходнасцю альбо дзяржаўнымі інтарэсамі.***

***Хтосьці сказаў, што перамога ва ўсіх падрабязнасцях надта ж нагадвае паразу. А яшчэ нехта — што пераможцы так не жывуць... І ўсё ж — з надыходзячым святам! З Днём Перамогі!***

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ



У нашай "некаранаванай сталіцы" ўжо трэці год запар прайшоў фестываль "Музы Нясвіжа". Штораз — новыя музычныя праграмы, штораз — новыя мастацкія ўражанні. Абноўлены позірк на гістарычныя традыцыі, абноўленая відовішчнасць. Абнаўленне ў самой прыродзе... Так, зменлівы характар у нясвіжскіх муз, якімі апякуецца гурт неабыякавых таленавітых творчых людзей. Гэта і аўтар ідэі фестывалю, яго мастацкі кіраўнік М. Фінберг, і музычны кіраўнік Б. Нічкоў, і кіраўнік навуковы — У. Скараходаў, і каментатар канцэртаў В. Дадзіёмава, і гасцінны кіраўнік Нясвіжскага раёна У. Дражын. Поруч — нямала захопленых спадзвіжнікаў, чыннікаў імпрэзы, што збірае шматлікую публіку. Да яе далучаюцца і цікаўныя візіцёры з Мінска. Сёлета на заключны канцэрт прыехалі нават пасол ЗША на Беларусі сп. Д. Спекхард, пасол Рэспублікі Турцыя сп. Ш. Сойсал, прадстаўнікі дыпламатычных місій Венгрыі, Італіі... Вядома ж, ёсць падстава пагаварыць пра нясвіжскую падзею ў адным з бліжэйшых нумароў "ЛіМа".

*Фота Віт. АМІНАВА*

### АДМЕТНАСЦЬ ТЫДНЯ

Як бы добра ні быў спраектаваны горад, ён усё роўна застанецца толькі нагрувашчваннем каменя і шкла, пакуль і ў ім не з'явяцца творы манументальнага і дэкаратыўнага мастацтва. Для Мінска гэтая праблема надзвычай актуальная. Помнікі ў горадзе можна пералічыць на пальцах, а скульптурнай пластыкі дэкаратыўнага характару і таго меней. Таму з'яўленне ў Міхайлаўскім скверы, што непадалёк ад чыгуначнага вакзала, паркавай скульптуры (прычым высокамастацкай) стала для горада падзеяй. Аўтары — скульптар У. Жбанаў і архітэктар Б. Юрцін. Іхні твор у пэўнай ступені функцыянальны, а не толькі эстэтычны. Бо гэта... лаўка, на якой сядзіць прывабная бронзавая жанчына. Можна прысесці побач.

### ПОШУК ТЫДНЯ

У Нацыянальным мастацкім музеі экспануецца фотавыстава "У пошуках Беларусі: 12-ы год пасля Чарнобыля". На ёй творы Сяргея Брушко (Беларусь) і Хуга Еггі (Швейцарыя). Ініцыятары выставы — прыгаданы швейцарскі фотамайстар і журналіст Петэр Еггі. Іхнія партнёры ў Беларусі — Сямён Букчын і Сяргей Брушко. Разам яны вандравалі па нашай краіне. У выніку з'явіўся фотаальбом (на грошы швейцарскіх спонсараў) і гэтая выстава, з якімі ўжо азнаёміліся ў Швейцарыі. Цяпер такую магчымасць маюць і мінчукі. Праўда, швейцарскі варыянт альбома і выставы адрозніваецца ад беларускага. У нас альбом і выстава з "белымі плямамі". Шэраг здымкаў выразала цэнзура, знайшоўшы ў іх крамолу.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

У галерэі "Мастацтва" (праспект Ф. Скарыны, непадалёк ад Галоўнага паштамта) выстава жывапісца Аляксея Марачкіна — мастака, шырокавядомага не толькі сваёй творчасцю, але і выразнай грамадскай пазіцыяй. Ад жывапісу да інсталяцыі, ад язычніцкай міфалогіі да сац-арту — такое кола яго ных інтарэсаў. Дарэчы, у язычніцтве мастак знаходзіць тое, што цяпер мы завём "экалагічным мысленнем". Гарманічныя стасункі чалавека і прыроды, чалавецтва і Сусвету. Да таго ж, язычніцтва для Аляксея Марачкіна — гэта першая праява нацыянальнага духу і тое, што лагічна трансфармавалася ў беларускую версію хрысціянства.

### ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

У Віцебску з 6 па 10 мая пройдзе Рэспубліканскі фестываль мастацкай творчасці студэнтаў "Студэнцкая вясна-98". Не іначай гэта робіцца, каб віцебчукі не сумавалі ў перапынку паміж "славянскімі базарамі" і каб не пуставалі фестывальныя пляцоўкі. Дарэчы, па колькасці маштабных культурніцкіх акцый Віцебск можа аспрэчваць лідэрства ў сталіцы краіны.

### УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

75-годдзю народнага мастака Беларусі Віктара Аляксандравіча Грамыкі прысвечана выстава, што адкрылася 6 мая ў Нацыянальным мастацкім музеі. Мастак належыць да тых творцаў, пра якіх гавораць, што яны ўвасабляюць эпоху, па карцінах якіх можна вывучаць час. Калісьці маскоўскія крытыкі адзначалі як адметную з'яву беларускую жывапісную школу, беларускі станковы жывапіс. І сапраўды, за жывапіс 60—80-ых гадоў нам не сорамна і сёння. А Віктар Аляксандравіч і зараз працуе плённа.

З НАГОДЫ

# Адсвяткавалі...

Свята Дня друку сур'ёзна падпсаваў зацяжны, як прамова бюракрата, травеньскі дождж. Ды і з часам пачатку сустрэчы журналістаў і прэзідэнта РБ атрымалася штосьці недарэчнае. Напярэдадні (4 траўня) рэдакцыю "ЛіМа" папярэдзілі па тэлефоне, што адбудзецца яна а першай гадзіне дня ў нацыянальным прэс-цэнтры. Але Форум журналістаў краін СНД, як высветлілася не без прыкрасці, распачалі ў канцэртнай зале "Мінск" у адзінаццаць. Так што трапіў я сюды, як і іншыя мінскія журналісты, на шапачны, так бы мовіць, разбор. А дакладней, у той момант, калі лепшым журналістам і работнікам друкарскай вытворчасці ўручалі прэміі, падарункі і кветкі. Прэзідэнт расійска-беларускай кампаніі "Слаўнафта" А. Фамін прэміяваў калектыў "Гомельскай праўды", адзначыў падарункамі Беларускую асацыяцыю журналістаў Чарнобыля. Крыху раней Дзяржкамітэтам па друку і Беларускім саюзам журналістаў былі прэміяваны пераможцы леташняга прафесійнага конкурсу: рэдактар брэсцкай абласной газеты "Заря" П. Суцько, прафесар журфака Б. Стральцоў, друкар Мінскага паліграфаб'яднання А. Жылінскі, карэспандэнт газеты "Звязда" А. Ляўковіч, супрацоўнікі часопіса "Беларуская думка" У. Вялічка, У. Глушакоў, В. Шырко, "Народнай газеты" — У. Самойлаў, часопіса "Беларусь" — В. Жылін, тэлежурналіст Л. Дубаневіч, А. Хазянін з "Маладзечанскай газеты", Э. Дамарацкі з газеты "Віцебскі рабочы". Абвяшчалася, што па выніках форуму будзе выдадзена кніга публіцыстыкі. Спонсар — тая ж "Слаўнафта". Канкрэтныя крокі інтэграцыі... І не толькі з Расіяй. У Форуме бралі ўдзел і прадстаўнікі іншых краін СНД.

Крыху раней прагучала прамова прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі. З імпэтам выступаў прафесар Б. Стральцоў — "бацька" многіх беларускіх газетчыкаў. Некалькі гадзін потым прэзідэнт адказваў на пытанні тэле- і радыёжурналістаў, прадстаўнікоў "папяровых" СМІ. Рабіў гэта, як і заўжды, пераканана, з аптымізмам і надзеяй на лепшае.

У гэты ж дзень у сталіцы быў урачыста адкрыты Дом журналістаў.

Карацей, Дзень друку адсвяткавалі. Зноў да рэдакцыйных сталоў, паважаныя спадары! Да чыстых аркушаў паперы!

**Яўген РАГІН**



*На здымку: прэмія Беларускага саюза журналістаў уручаецца прафесару факультэта журналістыкі БДУ Барысу Стральцову.*

*Фота А. Нікалаева, БелТА*

БРАВА!

# "Калі за табою — краіна..."

***Патэлефанавалі з Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі: "У нас — вялікі поспех! 12-гадовы Алег Яцына, вучань Лілii Умновай, стаў лаўрэатам II прэміі Міжнароднага конкурсу скрыпачоў у Францыі. Конкурс вельмі складаны і прэстыжны, бо ягоны прэзідэнт — сам славуты Ягудзі Менухін. А ўдалае выступленне Алега — гэта, зразумела, і заслуга ягонага педагога, і заслуга канцэртмайстра — выдатнага саліста і чулага акампаніятара Цімура Сергяені, дарэчы, мужа Лілii Уладзіміраўны..."***

***Тэлефаную Л. Умновай. Віншую з поспехам, распытваю...***

— Конкурс Ягудзі Менухіна, — расказвае Лілія Уладзіміраўна, — з'ява выбітная. Як, дарэчы, і легендарная асоба самога маэстра. У свае 82 гады ён здзіўляе энергіяй: прысутнічае на ўсіх конкурсных турах, іграе з аркестрам, дырыгуе... Сёлета на ўдзел у спаборніцтве скрыпачоў ва ўзросце да 16 гадоў было пададзена 250 заявак у выглядзе аўдыё- і відэакасет, у выніку адбору да конкурсу былі дапушчаны 24 музыканты з Японіі, Карэі, Расіі, Кітая, Беларусі, Германіі, Аўстраліі, Харватыі... Зразумела, у такой узроставай катэгорыі кожны год мае вялікае значэнне, і ў гэтым свая складанасць. 1-е месца заняла кітайская скрыпачка, якой ужо 16. Алег стаў другім. Што цікава, абодва ў фінальным туры гралі Канцэрт Кабалеўскага...



Уражанні — самыя добрыя. Конкурс адбываўся ў мястэчку Булонь Сюрмэр, што на беразе мора. Узровень арганізацыі — бліскучы, для рэпетыцый былі прадастаўлены класы з цудоўнымі раялямі. Жылі мы ў французскай сям'і, якая вельмі за нас "хварэла" — гаспадар дома нават узяў адпачынак на час конкурсу, каб сачыць за падзеямі, хаця сам — не музыкант, працуе ў банку. Поспех Алега быў для нашых гаспадароў не проста радасцю, а і гонарам. Увогуле, конкурс уразіў узроўнем падрыхтоўкі мададых скрыпачоў: вышэй за сярэдні, выбраць лепшых было нялёгка. Наш Алег зрабіўся ўлюбёнцам журы, у якім былі 9 вядучых скрыпачоў з Германіі, Вялікабрытаніі, ЗША. Захоплена прымала яго і публіка, многія проста падыходзілі да нас пасля выступлення.

Я не думаю, што ў гэтым поспеху ёсць выключная заслуга кагосьці аднаго. Мая — напэўна, у тым, што змагла разгледзець талент Алега Яцыны. І мне будзе цікава сустрэцца з ім некалі як з дарослым выканаўцам — вядома ж, музыкант па-сапраўднаму выяўляе, чаго ён варты, толькі гадам к 30-ці, калі працуе ўжо самастойна, без педагога. Прыемна было за Цімура Сергяеню, якога адзначылі аўтарытэтныя прафесіянікі, а лорд Менухін назваў "чалавекам-аркестрам". Нам, лічу, як нікому на гэтым конкурсе пашанцавала, бо мы паехалі **падрыхтаванай камандай.** І мы вельмі ўдзячныя за веру ў нашу каманду і за яе падтрымку — з боку кіраўніцтва каледжа, з боку Міністэрства культуры, якое знайшло магчымасць аплаціць усе выдаткі. Калі адчуваеш, як і ўсе іншыя ўдзельнікі конкурсу, што за табою — **краіна**, тады і адказнасць, і ўздым, і годнасць...

Адзінае, але вялікае засмучэнне — скрыпка Алега: ён вымушаны граць на інструменце, які не вытрымлівае ніякай крытыкі. Дзякуй Богу, гэта не адбілася на выніку ягонага выступлення...

**С. Б.**

*Фота К. ДРОБАВА*

ДУША

# "Дні ружовай кветкі"

Усе мы пад Богам. Ні самі, ні сябры, ні нашчадкі нашы — ніхто не застрахаваны ад бяды, ад немачы. Чалавек здаровы рэдка зважае, што ў грамадстве нашым існуе сацыяльная дыскрымінацыя тых, у чым нямоглым, фізічна непаўнацэнным целе трывае багаты і дзейсны дух або гарыць агеньчык творчага таленту... Нагадаць пра ўсё гэта, скіраваць грамадскую свядомасць на праблемы аздараўлення нацыі (і фізічнага, і маральнага) і сацыяльнай адаптацыі інвалідаў (стварэнне пандусаў для калясак на вуліцах, у месцах адпачынку, прыстасаванняў у транспарце і да т.п.), — з такой вось мэтай правялі сваю першую акцыю арганізатары "Дзён ружовай кветкі" ў Мінску.

Вядучы яе заключнай імпрэзы, старшыня аргкамітэта, навуковец і тэлежурналіст Данат Яканюк бачыць у сінтэзе міласэрнасці і мастацкай творчасці адмысловае адраджэнне колішняй традыцыі. Вядома, што пасля руска-турэцкай вайны, з часу якой спаўняецца 120 гадоў, у Мінску ды ў Вільні лячыліся шматлікія яе ваяры. Скалечаных і хворых дагледзялі сёстры міласэрнасці, проста добрыя людзі. У знак удзячнасці нямоглыя дарылі ім зробленыя ўласнымі рукамі штучныя ружовыя кветкі...

Удзельнікі сённяшніх "Дзён ружовай кветкі" ладзілі сустрэчы і канцэрты. На заключнай дабрачыннай імпрэзе ў зале "Мінск" выступалі музыканты і салісты Эстраднага аркестра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (мастацкі кіраўнік С. Багданаў, дырыжор Л. Карпенка), калектывы Беларускага універсітэта культуры "Баламуты" (кір. В. Трамбіцкая), "Валачобнікі" (кір. С. Дробыш), гурт "Беларусы". А таксама ансамбль пантамімы "Рух" (кір. Т. Бекіш) Беларускага таварыства глухіх, дзіцячы ансамбль з Міханавічаў "Калыханка" (кір. Л. Рыжкова) ды знакаміты "Палац". Дыктар-сурдаперакладчык БТ В. Чудакова ды студэнты-валанцёры з БУКа дапамагалі ладзіць гэтую кранальную, шчырую, жыццесцвярджальную вечарыну, у якой на роўных удзельнічалі і тыя, каго прырода шчодра надзяліла здароўем, і тыя, каму Бог даў вялікую мужнасць змагацца з цялеснай нямогласцю, сцвярджаць чалавечую годнасць і талент. Усім удзельнікам канцэрта дарылі жывыя ружы...

**С. Б.**



*На здымку: ансамбль пантамімы "Рух".*

*Фота А. ПРУПАСА*

ВІНШУЕМ!

# Стаў акадэмікам

Міжнародная акадэмія навук аб прыродзе і грамадстве на аснове свайго статута выбрала сапраўднага члена акадэміі Анатоля Сабалеўскага членам Прэзідыума гэтай установы па аддзяленні "Мастацтвазнаўства, музеязнаўства і калекцыяніраванне". Як вядома, Анатоль Вікенцьевіч — чалавек знакаміты ў навуковых колах. Доктар філалагічных навук, ён даўно і паспяхова даследуе праблемы сучаснага тэатра, у тым ліку пытанні ўзаемасувязяў і кантактаў беларускага тэатра з тэатрамі іншых краін, вядзе плённую выкладчыцкую дзейнасць, з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Тэатральная творчасць". Заслугі А. Сабалеўскага высока ацэнены не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, а і далёка за яе межамі. Тым больш прыемная навіна, якая прыйшла нядаўна...

Створаная ў 1994 годзе Міжнародная акадэмія навук аб прыродзе і грамадстве аб'ядноўвае больш чым 300 навукоўцаў і спецыялістаў з 20 краін. Сярод іх лаўрэаты розных прэмій, у тым ліку такіх прэстыжных, як Нобелеўская, акадэмікі нацыянальных акадэмій — для прыкладу: Расійскай, Н'ю-Йоркскай, Італьянскай і іншых. Галоўная мэта акадэміі — кансалідацыя вучоных, спецыялістаў розных краін і каардынацыя іх дзейнасці для вырашэння глабальных, агульначалавечых праблем, стварэння інтэрнацыянальнай інфармацыйна-пазнавальнай прасторы, свабоднага абмену ведамі, ідэямі, навуковымі і практычнымі вынікамі інтэлектуальнай дзейнасці.

Акадэміяй зацверджаны памятныя нагрудныя знакі і медалі, якімі ўзнагароджваюцца найбольш актыўныя і дастойныя яе члены. Анатоль Вікенцьевіч атрымаў памятны нагрудны знак, што ўяўляе сабой пазалочаны партрэт-барэльеф буйнейшага вучонага сучаснасці Альберта Эйнштэйна з надпісам "Міжнародная акадэмія навук аб прыродзе і грамадстве".

# Надзея з "Белага дома"

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Мае, што спяваць: народныя беларускія песні ва ўласнай апрацоўцы, творы Я. Глебава, Л. Захлеўнага, У. Будніка, В. Іванова, І. Лучанка, І. Паліводы, Д. Даўгалёва, В. Сярых, Э. Зарыцкага, Э. Ханка дый тыя, якія сама складае, — на вершы М. Танка, Н. Гілевіча, А. Вярцінскага, Н. Тулупавай, Э. Агняцвет, В. Аколавай, Л. Пранчака... Падчас бенефісу ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі Надзея Мікуліч выканала без малога тры дзесяткі песень, прадставіўшы і новых сваіх партнёраў па творчасці: М. Яцкова, Л. Ляпко, А. Харавец...

Дарэчы, не кожная эстрадная спявачка можа гэтак адзначыць сваё 25 (калі прыгожая лічба азначае не колькасць пражытых гадоў, а ўзрост сцэнічны): у росквіце сіл і папулярнасці. Не кожнай хопіць душэўнай шчодрасці ды пачуцця гумару пахваліцца сваёй "пенсіяй за творчы стаж", якая дазваляе ўздыхнуць з палёгкай, расправіць крылы — і з яшчэ большым натхненнем спяваць. Спяваць пра жанчыну, пра каханне, пра душэўныя пакуты; пра тое, што выклікае ўсмешку і ўзнімае настрой. Спяваць пра жыццё і пра сябе.

"Вы не падумайце, што Надзя толькі на сцэне такая — шчырая, шчодрая, вясёлая, таварыская. Яна такая заўсёды", — прамовіла ў мікрафон артыстка, якая выйшла павіншаваць калегу і сяброўку. Вядома ж — заўсёды! Бо інакш не было б гэтай цёплай, упрыгожанай кветкамі, дасціпнымі экспромтамі, сюрпрызамі, вечарыны, якая доўжылася каля чатырох гадзін. Уяўляеце?

А з колькіх кранальных імгненняў складаліся тыя гадзіны! Пасля грымлівых "мінусовак" — жывыя галасы акустычных гітар ды губнога гармоніка. Пасля бліскучых какошнікаў ансамбля "Славянскі сувенір" — прачулае беларускае слова старшыні Бабруйскага райвыканкама Анатоля Глаза, які прывёз з сабою легшых самадзейных танцораў раёна. А дасціпная музыкантка-руплівіца Валянціна Карэлікава, якой "хораша ў промнях славы" Надзеі Мікуліч; каларытная "Бяседа"; купка "Чараўніц" на чале з Генадзем Лятынскім — неспадзяваны напамінак пра Гародню 68-га! І дзівосная спявачка, настаўніца — Ірына Аляксандраўна Палянская, дзякуючы якой Надзея, страціўшы голас пасля нараджэння дачкі, заспявала зноў і вярнулася на эстраду...

Радасць святочнага выступлення падзялілі з ёю гітарыст Аляксандр Ляднёў; эстрадны музыкант Леанід Клунны ды оперная "зорка" Рыгор Палішчук (абодва — партнёры Н. Мікуліч у "Трыо таўстуноў"); незаслужана забытая жорсткім шоу-бізнесам сапраўдная прафесійніца, майстар жывога гуку Людміла Ісупава; "самы вялікі спявак" Алег Цівуноў, які падараваў канцэртны нумар... у выкананні Таццяны Арлоўскай.

І тое, што ў зале былі маці ды брат Надзеі Мікуліч; і тое, што віншаваць яе выходзілі старшыня Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі з маленькай мужнай пакутніцай, мастачкай Сашай Гушчай, якая паведаміла пра ганараванне артысткі званнем "Сябра дзяцей"; і тое, што гучала новая песня "Волечка", прысвечаная дачцэ Надзеі Мікуліч, — усё наводзіла на думку пра загадкавую шчырасць нашай эстрады. Ну, а калі з'явіліся Ядвіга Паплаўская ды Аляксандр Ціханові, калі прытушылі пражэктары і над сцэнай засвяціўся экран з кіназдымкамі "Верасоў" сярэдзіны 70-х, калі пад воплескі здзіўленай публікі выйшлі яшчэ трое колішніх удзельнікаў ансамбля і ўрэшце заспявалі гэтым сціплым, але магутным складам папуры на тэмы сваіх лепшых тагачасных песень... Дайце веры, можна было расчуліцца!

Сябры гаварылі пра яе як пра шчодрую крыніцу любові ды цяпла. Хораша казалі пра ейны гасцінны дружны дом — "Белы дом". (Гэтую сям'ю называюць "Белым домам" з-за прозвішча гаспадара, адміністрацыйнага работніка філармоніі, — Барыса Белага).

І жартавала гаспадыня вечарыны: "Ну, вось: муж — Белы, дачка — Белая. І толькі я адна — Надзея Мікуліч".

Артыстка, загадка?..

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота К. ДРОБАВА*

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Гран-пры "Белай амфары"

Рэспубліканскі конкурс мадэльераў-дызайнераў і манекеншчыц "Белая амфара-98", які чатыры дні радаваў Віцебск, падвёў свае вынікі. Як адзначыў на закрыцці "Белай амфары" першы віцэ-прэзідэнт канцэрна "Беллегпрам" Аляксандр Міхневіч, конкурс спалучыў мастацтва высокай моды і практычнае прамысловае мадэліраванне, з'явіўся сапраўдным стымулам творчасці мастакоў моды.

Дарэчы, у Віцебск з'ехалася 146 мадэльераў з 19 гарадоў Беларусі. Гран-пры і прэмія ў паўтары тысячы долараў у намінацыі "Прамысловае мадэліраванне" прысуджана Алене Мітт з Мінска за калекцыю "Воблака на пяску". Першыя месцы ў конкурсе атрымалі мадэльеры Людміла Тараканава (Віцебск), Уладзімір Радановіч і Надзея Дайнека (Мазыр), Алеся Андраюк і Вольга Ламака (Мінск), Вольга Самошчанка і Святлана Афанасьева (Салігорск).

**Святлана ГУК**

*БРЭСТ...*

## Каб не бавіць час марна

У Кобрыне і раёне прайшоў абласны семінар метадыстаў раённых і гарадскіх метадычных цэнтраў пры аддзелах культуры. Тэма семінара — "Вольны час і выхаванне асобы". Клубныя работнікі Кобрыншчыны паказалі шэраг мерапрыемстваў для розных узроставых і прафесійных груп насельніцтва: вечар адпачынку "Ля каміна", абрад "Ушанаванне сям'і", дзіцячую Спартланддыю...

Праблема арганізацыі вольнага часу застаецца для работнікаў культуры адной з галоўных. Таму семінары такія праводзяцца ў вобласці рэгулярна.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

*МАГІЛЁЎ...*

## "Гукі Айчыны"

У Дрыбіне адбылася прэзентацыя зборніка вершаў "Гукі Айчыны" паэта і прыродазнаўцы з мястэчка Прылесіна Анатоля Андрэевіча Канакова. Зборнік выйшаў дзякуючы садзеянню сярэдняй школы, бібліятэкі і пры фінансавай падтрымцы мясцовага райвыканкама. Дрыбінскі аддзел культуры райвыканкама з гэтай нагоды правёў сустрэчу за "круглым сталом", у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі мясцовай творчай інтэлігенцыі.

## Свята духавых аркестраў

У Палацы піянераў прайшло сапраўднае свята духавых аркестраў, арганізаванае абласной філармоніяй. Жыхары Магілёва змаглі ўбачыць і пачуць выступленні духавога аркестра "Фанфары Беларусі" Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Аркадзя Берына, заслужаную артыстку Расіі, прафесара Маргарыту Шапашнікаву разам з яе вучнямі — квартэтам саксафаністаў Расійскай акадэміі музыкі імя Гнесіных, камерны духавы аркестр Рэспубліканскага музычнага каледжа і пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі Льва Муранава. Скончылася свята выступленнем зводнага аркестра, які выканаў цыкл старажытных яўрэйскіх мелодый.

## Творчая акцыя

На Магілёўшчыне завершана традыцыйная творчая акцыя "Чарнобыльскі шлях". Гэтая акцыя, арганізатарамі якой з'яўляюцца Міністэрства культуры і Міністэрства надзвычайных сітуацый, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі, Беларускі дзіцячы фонд і БСМ, праводзіцца ўжо дванаццаты год. Сёлета творчая група, у склад якой увайшлі кампазітар Эдуард Зарыцкі, спявак Віктар Стральчэня, цыганскі ансамбль "Рунь", цыркавая група "Мінчанка", іншыя сталічныя калектывы і выканаўцы, наведалі Клімавіцкі, Касцюковіцкі, Краснапольскі і Чэрыкаўскі раёны. Разам з імі выступалі таксама і мясцовыя дзіцячыя калектывы. Пасля заканчэння акцыі юныя артысты, вучні мясцовых музычных і мастацкіх школ атрымалі ад удзельнікаў падарункі.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Сорак гадоў з мальбертам

Сёння ў Светлагорскім краязнаўчым музеі адкрываецца персанальная выстава жывапісца Міхаіла Андыка. Добра вядомы ён на Гомельшчыне. Нарадзіўся ў глыбі Палесся, на Тураўшчыне. Зараз жыве і працуе ў Светлагорску. Мастак адметны, сапраўдны пясняр беларускага Палесся. Яго шматлікія жывапісныя палотны экспанаваліся ў Гомелі, Мінску, Маскве, выстаўляліся ў мастацкіх галерэях Урала і Далёкага Усходу. Міхаіл Пятровіч — двойчы дыпламант усесаюзных мастацкіх выстаў. На гэтай экспануецца 80 работ. Кожная — сапраўдны гімн беларускім лясам, рэкам і азёрам. Выстава ў Светлагорску прымеркавана да 40-годдзя творчай дзейнасці мастака.

## Памяць Веткаўшчыны

Пятага траўня ў Веткаўскім Доме культуры адбылася прэзентацыя кнігі "Памяць". Двухтомнік выйшаў у выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". Падзея ў жыцці раёна надта адметная. Кніга ўвабрала ў сябе гісторыю знакамітага краю, звесткі пра лёсы загінуўшых у Вялікай Айчыннай вайне землякоў, інфармацыю пра культурную спадчыну, развіццё сельскай гаспадаркі і мясцовай вытворчасці, пра слынных людзей, якія нарадзіліся на гэтай зямлі (напрыклад, пра паэта Дзмітрыя Кавалёва, міністра замежных спраў былога СССР Андрэя Грамыку). Асобныя раздзелы двухтомніка прысвечаны мастацкім здабыткам веткаўцаў, восем з якіх з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў.

У прэзентацыі кнігі "Памяць" прынялі ўдзел жыхары горада і раёна, журналісты, аўтары артыкулаў, мясцовая інтэлігенцыя.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

XII З'ЕЗД САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

# Мастак служыць праўдзе і ісціне

## СПРАВАЗДАЧА СТАРШЫНІ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ ВАСІЛЯ ЗУЁНКА

Паважаныя сябры! XII пісьменніцкі з'езд сабраўся ў нялёгкі, можна сказаць, крызісна складаны час існавання нашага творчага Саюза.

І таму гаворку трэба пачынаць і весці найперш пра набалелае, пра тое, што вызначае моманты нашага выжывання як арганізацыі.

Падрабязны аналіз, крытычная характарыстыка творчасці кожнага з нас — надзённая справа органаў друку, нашай шматлікай літаратуразнаўчай кагорты.

Задача з'езда — іншая. Асабліва сёння...

Між людзей не надта дасведчаных у літаратурных варунках існуе ўяўленне, што Саюз пісьменнікаў — гэта такая ўстанова, такая кантора, дзе збіраюцца творцы — больш ці менш здатныя — і пішуць кнігі, а нехта, пэўна ж самы таленавіты, той, хто паспеў ужо раней за ўсіх адпісацца, пахаджае між сталоў і падказвае, як яно робіцца хутчэй і лепш, — словам, пішацца гэткае сачыненне на зададзеную тэму...

Дык вось — пры ўсёй прымітыўнасці гэтага наіўнага "літаратуразнаўства" самае дзіўнае, што гэты самы "Нехта" заўсёды існаваў ці, прынамсі, імкнуўся і імкнецца існаваць у рэальнасці.

"Нехта" — зусім канкрэтная сіла: уладная сістэма — сама па сабе ці персаніфікаваная, — гэта ўжо не мае істотнага значэння...

Улада і мастак, улада і пісьменнік, у прыватнасці, — тэма вечная і спрадвечная: як з'явіліся яны на свет, так і выпрабоўваюць адно аднаго на трываласць. Улада патрабуе ўслугавання, мастак прагне творчай свабоды. Не сакрэт, што ў гэтым баруканні тойсёй прадаецца, схіляецца ў паклоне: то за пярсцёнак з брыльянтамі, то за футра з царскага пляча, то за лакейскае жыраванне на прыдворных "хлябах", іншы нават і за бясцэнак гатовы аддацца...

Але ў вышынных праявах духу перамагае мастак творча не заняволены, які згодны служыць толькі Праўдзе і Ісціне:

***Небу справу здае сэрца, думка мая***
***Сонцу, зорам, арлам толькі роўна...***

Янка Купала сказаў гэтыя словы ў 1910 годзе. А ўжо ўсяго праз нейкія два-тры дзесяцігоддзі народнаму песняру давялося адстойваць сваё мастакоўскае права быць падсправаздачным толькі перад небам і сваім геніем, а яму ўпарта даводзілі — увесь астатак жыцця, да трагічнага фіналу, — каму і як ён павінен спяваць...

Да гэтага "выпрамлення" паэта, безумоўна ж, дачыняўся, не мог не дачыняцца, і Саюз пісьменнікаў. Бо і створаны ж ён быў, побач з іншым, і дзеля "арганізацыі" і "накіравання" "літаратурнага працэсу"...

Час ідзе, мяняецца, але гэты "іміджны хвост" пісьменніцкага Саюза так і цягнецца ўслед за ім, і само яго існаванне выклікае перманентныя спрэчкі: быць ці не быць?.. (Я спецыяльна паўтараю гэта сакраментальнае пытанне, прачытаўшы ў "ЛіМе" прадбачанне Ігара Пракаповіча)...

Так, нямала папрокаў можна выказаць "літаратурнаму калгасу"... І ўсё ж... Ідэя, якая нас аб'ядноўвала, яднае, і трэба спадзявацца, будзе яднаць, — ці была яна?.. Ідэя, якая рабіла саюз Саюзам...

Нядаўна прыпыніў мяне, сустрэўшы на вуліцы, пытаннем нечаканым і нават нейкім чынам зашыфраваным Барыс Іванавіч Бур'ян: "Ну дык што будзе?.." — як быццам быў упэўнены, што я дакладна ведаю, які сэнс ён разумее за гэтым самым "што"... І амаль не памыліўся — з першых жа слоў гаворка пайшла ў нас пра лёс Саюза пісьменнікаў. І я не мог не пагадзіцца з Барысам Іванавічам, бо і сам гэтак думаў і думаю: Саюз нам трэба ўберагчы. Не як інстытут "упарадкавання" і падпарадкавання літаратурных талентаў, а як выказнікі і, можа быць, апошні фарпост нашай нацыянальнай ідэі, яе сутнасці і існасці. Хай сабе ў нас розныя погляды і падыходы на яе здзяйсненне, — але пакуль ёсць адзінства мэты павінен быць і адзіны творчы Саюз.

Розныя тэндэнцыі — і ў творчасці, і ў грамадскіх разуменнях, — рэч натуральная. Але бясспрэчнаю між імі і над імі павінна застацца ў нас адна, галоўная, вызначальная, мэта: захаваць нашу нацыянальную самабытнасць, адрадзіць і ўзвысіць нашу гістарычную памяць, узняць яе з каленяў, даводзіць народу, што ён Народ. Канешне, хто зракаецца гэтага шляху — такому: вось бог, а вось парог, — але не мы павінны пакідаць наш Саюз, а адшчапенцы...

Ды і сабрацца пагаманіць пра надзённыя справы, ды і, будзем шчырымі, правесці тавaрыша ў апошнюю дарогу, — як жа тут без гэтага самага Саюза: хто нават пазвоніць, абвестку дасць, калі мы рассыплемся на купкі і групкі...

Зразумела, не лёгка і не проста ўтрымацца над палітычнымі схільнасцямі, сімпатыямі і амбіцыямі. Але гэтыя асабістыя бар'еры нейкім чынам трэба пераадольваць. Якія формы набудзе наша творчая суполка, падкажа, напэўна, жыццё, але і самі мы мусім шукаць свежых падыходаў і арганізацыйных ідэй.

Пэўна, наспела неабходнасць функцыянальнай пераарыентацыі структураў СП — як сакратарскай, так і кансультацыйнай (бо, не сакрэт, няма каго асабліва кансультаваць, апроч рэдкіх графаманаў, — асноўная праца з аўтарамі ідзе ў рэдакцыях). Магчымы адзін з арганізацыйных накірункаў, які б непасрэдна займаўся пытаннямі прапаганды літаратуры і мовы (у кантакце з ТБМ). Магчыма арганізацыйнае афармленне службы па сацыяльных праблемах, паяднаўшы намаганні з Літфондам... Хоць і перасцерагчыся варта: ствараць нейкія штучныя праекты сёння занятак марны.

Сёння ясна адно: мы апынуліся ў такім стане, калі ўлада не можа "ўпраўляцца" з літаратурай па-старому, не можа па-ранейшаму кіраваць "літпрацэсам", а літаратары не хочуць тварыць па былых стандартах і мерках: пад дыктоўку, у ілюстрацыйным рэчышчы ўладных указаў і пастаноў.

З горыччу, пры гэтых роздумах, ступаеш па асацыятыўных мосціках, што пракладвае ў сваім новым гістарычным рамане "Залатая жрыца Ашвінаў" Вольга Іпатава: "Мы страцілі жывую радасць ад жыцця — проста жыцця, здрабнелі ў жаданнях і забыліся, што мы лісты аднаго дрэва. А яшчэ, — горка дадаў Святазар, — нават мы, жрацы, спрабуем дагадзіць сіле, аднак жа князі — гэта ўсяго толькі маленькія чалавечкі, якія падскокваюць, каб вышэй паказаць сябе"...

Творчаму чалавеку не трэба падскокваць. І ўсё ж апора і ў яго павінна быць...

З надзеяй аб нашай будучыні хацелася б глядзець на наш творчы Саюз. Каб і чорт не радаваўся, і сабака хвастом не круціў...

Матэрыяльная падтрымка нацыянальнай культуры, і літаратуры як неад'емнай часткі яе, ва ўсім цывілізаваным свеце лічыцца за справу не толькі тактычную, але і стратэгічную. І гэта зусім зразумела: падтрымліваць духоўны патэнцыял народа, нацыі — абавязак дзяржавы як гаранта суверэннага існавання гэтага народа, гэтай нацыі. І тут у рэчышчы асноватворных дэмакратычных прынцыпаў зусім не выпадае атаесамляць уладнасць з дзяржаўнасцю. Пастулат: у каго ўлада, той і ўвасабляе дзяржаву — далёка не бездакорны. Улада катэгорыя не вечная, у дачыненні да канкрэтных абставінаў і асоб — часовая: сёння ёсць, заўтра няма; дзяржава ж — калі яна сапраўды народная — застаецца назаўсёды: яна ствараецца народам для ўласнага ўсталявання ў зямным агульнажыцці.

І калі падыходзіць з гэтых пазіцый, то дзяржаўная падтрымка нашых творчых клопатаў і патрэб мусіць быць з'явaю не выключнай, не выбарачнай, а зусім натуральнай і ўсеахопнай, — гэта значыць дзяржаўнай палітыкай, а не чыёйсьці высокаю ласкай. Палітыкай на ўсіх узроўнях. Як робіцца гэта, да прыкладу, у Францыі, — пра што неадноічы са здзіўленнем (капіталістычная ж сістэма!) ды і з зайздрасцю сведчылі нашы таварышы, якім давялося пабываць у гэтай краіне і пазнаёміцца са стройнай дзяржаўнай сістэмай падтрымкі нацыянальнай культуры: як кажуць, ад федэральнага да муніцыпальнага ўзроўню. І гэта ў першую чаргу тычыцца літаратурных і мастацкіх часопісаў, якія ў сілу сваёй спецыфікі не могуць самафінансавацца, да прыкладу, скажам, як рэкламадаўцы.

Не будзем крывіць душой: і нашы літаратурна-мастацкія выданні часткова датуюцца праз сістэму Дзяржкамдруку. Не забываюць там, праўда, нагадваць, каб і самі часопісы варушыліся, шукалі дадатковыя крыніцы фінансавання. І гэта не так ужо і страшна, — і тут ёсць прыкметныя зрухі. Нядаўна, захадамі галоўнага рэдактара Сяргея Законнікава, арганізаваны фонд падтрымкі часопіса "Полымя" — "Гронка", — да супрацоўніцтва далучаюцца ініцыятыўныя, уплывовыя людзі. Ёсць такі фонд і пры "Нёмане". Робяць самастойныя, хай сабе і сціплыя крокі да папаўнення сваёй касы "Маладосць", "Беларусь", іншыя выданні. Але — паўторымся — без дзяржаўнай фінансавай асновы, асабліва ў наш эканамічна складаны час, ім не абысціся.

Выклікае занепакоенасць і трывогу звужэнне, калі не сказаць рэзкае падзенне, намінацый і тыражоў беларускай кнігі. Кажуць не заказвае кнігагандаль: няма попыту, — мауляў, не чытаюць... Але — патлумачце, будзьце ласкавыя: пра які попыт можа ісці гамонка, калі Белспажыўсаюз наогул ухіліўся ад продажу беларускай кнігі?!

Можна было б паспачуваць працаўнікам кнігагандлю, стаўшы на момант на іх месца: так, сапраўды, попыт падае. Але ці толькі на беларускую кнігу? І ці толькі ў Беларусі? Не, і далёка — не. Паглядзіце на шэрагі класікі — разнамоўнай, не толькі рускай, — і ранейшай афіцыйна прызнанай і забароненай-паўзабароненай: ва ўсім бляску паліграфічнага выканання пакоіцца яна на прылаўках. Ды гадоў дзесяць таму за ёю — такія ж бясконцыя — шэрагі пакупнікоў стаялі!.. Пэўныя прычыны такой з'явы як бы відавочныя, ляжаць на паверхні. Перанасычанасць рынку? Напэўна... Яшчэ — абвальнае збядненне народа, а гэта значыць — пакупніка: 100-150 тысяч рублёў — хто гэта адважыцца



*У прэзідыуме Аляксей Дударай, Васіль Зуёнак і Іван Навуменка.*
*Фота А. ПРУПАСА*

так лёгка выняць з кішэні, і аддаць за кнігу, калі рублёў тых і на харч — у абрэз...

Але ці толькі ў гэтым корань зла?

Ёсць прычыны куды глыбейшыя, і ці не ідзе побач з матэрыяльным збядненнем людзей збядненне духоўнае — тых, хто мае гэтыя рублі, ды бяздумна і бяздушна шпурляе іх на д'ябальскае вогнішча маскультуры?..

Наша ж, беларуская, сітуацыя ўзводзіцца ў ступень яшчэ і ўняеннем афіцыйна-нігілістычнага разладу ў працэс адраджэння, станаўлення і ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнага духу.

Тут на першае месца выступаюць пытанні беларускай мовы і нацыянальнай школы.

Так, наша шматпакутная мова цягам стагоддзяў сама сцвярджае сябе: глыбінна, можа, нават касмічна затоена і загадкава — сваёй жыццястойкасцю, а публічна — творчасцю нашых слынных майстроў слова, у іх стылёвай і лексічнай разнастайнасці, шматфарбнасці і багацці.

Да гэтага аргумента далучаецца — і ўсё больш пераканаўча — яшчэ адзін штрых. Ён, можа, самы такі відавочны. Гэта — пераклады на родную мову твораў сусветна вядомых, што сталі адзнакамі вышынных узлётаў духу зямной цывілізацыі. Васіль Сёмуха: ад "Фаўста" Гётэ да Кнігі кнігаў "Бібліі", Уладзімір Скарынкін — "Боская камедыя" Дантэ... Хто пасля такіх доказаў можа сцвярджаць, у каго язык паварочваецца гаварыць аб функцыянальнай беднасці, недзеяздольнасці беларускай мовы, аб яе абмежаваных магчымасцях — ці то творчых, навуковых, ці хай сабе камунікацыйных?..

Сутнасць у тым, што мовай не пагарджаць трэба, а трэба яе шанаўна ахоўваць, як душу нашу беларускую: не мова памірае, а народ без мовы робіцца мёртвым. Недарэмна ж — як на скрыжалях — высвечана класікам: "Каб не ўмерлі..."

І яшчэ адзін шчыры працаўнік на ніве беларускага адраджэння паэт Уладзімір Жылка гаварыў у 1922 годзе: "Народ гібеў і зносіў нядолю і здзек таму, што Дух часова адляцеў ад яго, а разам з ім і Слова, бо не дарма гаворыцца ў Евангеліі Яна, што Бог ёсць Слова..."

І калыскай любові да роднай мовы — як несмяротнай душы народа — павінна быць школа. Павінна... Але:

"У Савецкім раёне (г. Мінск. — **В. З.**) няма ніводнай беларускамоўнай школы, а ў першы клас увосень мінулага года тут прыняты ўсяго 32 вучні. На радзіме выдатнага пісьменніка (г. Орша. — **В. З.**), усенародна любімага Уладзіміра Караткевіча няма ніводнага беларускамоўнага вучня ў першым класе..." — гэта сведчыць паэт Генадзь Бураўкін, старшыня рады Таварыства беларускай мовы ("Звязда", 24.III.98).

А вось яшчэ адно сведчанне — латвійскага дыпламата пані Інгрыды Леўрэнцэ, якая валодае шасцю мовамі і перакладае з іх творы мастацкай літаратуры, — з горыччу заўважае яна, што ўжо, дарэчы, неадноічы зазначалася і іншымі нашымі гасцямі: "Мяне вельмі здзіўляе, што на вуліцах Мінска я практычна не чую беларускую мову. А гэта гаворыць пра многае..." ("Народная воля", 3.IV.98).

Сапраўды — пра многае... Асабліва калі пачынаеш параўноўваць. Да прыкладу: 65 працэнтаў школ Украіны — украінскамоўныя, а ва ўкраінскія класы ў гэтым навучальным годзе прыйшоў 71 працэнт усіх першакласнікаў...

Дык вось: як гаврыў стары Архімед: "Дайце мне кропку апоры, і я зямлю зрушу", — так маем усе падставы сказаць і мы: "Дайце нам беларускую школу — і тады пабачым, каго чытаць будуць..." (Маецца на ўвазе школа і агульнаадукацыйная і вышэйшая).

Гэта, дарэчы, і адказ на з'едлівую і зняважлівую ўхмылку члена нашага Саюза Анатолія Аўруціна ў адным з газетных опусаў: "...смешно в русскоязычной и русскодумающей республике всерьёз рассуждать о том, что книги на белорусском читатель берет охотнее. Нет и еще раз нет! Просто... среднестатистический читатель покупает лишь то, к чему его вынуждает жизнь. Например, книжку для своего чада, которому велено то или иное произведение изучить по школьной программе..."

Трохі доўгая цытата, але паказальная. Паказальная ў тым сэнсе якраз, якога мы так дашукваемся: чаму зніжаюцца тыражы, чаму вузее намінацыйнае кола аўтараў у выдавецкіх планах. А што тычыцца супрацьстаўлення: "беларускамоўная кніга" — "рускамоўная кніга" і як бы змушанасць чытача купляць выключна першую, то заўважым: школьнай праграмай "велено изучить" не толькі Купалу і Коласа, але і Пушкіна, і Талстога, яшчэ і Шэкспіра з Гамерам, што натуральна і ад чаго ніхто з беларусаў ніколі не адмаўляўся і, па апошніх агентурных звестках, не збіраецца гэта рабіць...

І калі ўжо чытач, патэнцыяльны пакупнік кнігі, матэрыяльна не можа цалкам забяспечыць свае чытацкія інтарэсы і патрэбы, то дапамагчы яму ў гэтым павінны бібліятэкі —

*(Працяг на стар. 6—7)*

# XII З'ЕЗД САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

# Мастак служыць праўдзе і ісціне

(Працяг. Пачатак на стар. 5)

школьныя, масавыя і, можа, найперш — сельскія. Тут і газета павінна быць, і часопіс, і кніга патрэбная. Камплектацыя бібліятэк сапраўды робіцца справай дзяржаўнай важнасці.

Мы звяртаем свае спадзяванні да Міністэрства культуры: справу гэтую мы можам па-людску вырашыць толькі агульнымі намаганнямі.

Хацелася б каб бібліятэкі ўсіх узроўняў і падпарадкаванняў не прайшлі міма такога сэрыйнага выдання, як "Беларускі кнігазбор" (ініцыятар і натхняльнік паэт Кастусь Цвірка, а вакол яго — дасведчаныя, творчыя людзі — Вячаслаў Чамярыцкі, Язэп Янушкевіч, Міхась Скобла, Галіна Тычка... — і кола іх шырэе...), — сціплыя, з густам аформленыя томікі, з добрым, навукова абгрунтаваным укладаннем і каментарыем. Выданне як бы спецыяльна робіцца для стварэння даступнага бібліятэчнага фонду, адрасаванага масаваму чытачу.

А школьныя бібліятэкі, відаць жа, павінны стаць дзейснымі партнёрамі серыі "Сусветная літаратура для дзяцей", якую ўжо неадноойчы дакляраваў дырэктар выдавецтва "Юнацтва" Валянцін Лукша, — выданне архінеабходнае для беларускай школы.

Наспела пільная патрэба пашыраць кола і спектр беларускіх перыядычных выданняў для дзяцей. Трэба адваёўваць іх неакрыленыя душы ў бяздумных і бяздушных тэлебеевікоў. І ўцешна, што побач з добрымі даўнімі сябрамі юных чытачоў — "Бярозкай" і "Вясёлкай", набіраецца моцы "Лесавічок" — часопіс-плакат, апякуемы Уладзімірам Ягоўдзікам. Пабольш бы такіх заявак!

З настальгіяй згадваюць пісьменнікі, і асабліва старэйшы прапагандыст і выканаўца мастацкага слова Аляксей Слесарэнка, Бюро прапаганды мастацкай літаратуры. Сапраўды, пры пэўным шумавінні ўсё ж гэта быў бруісты ручаёк, што нёс нашы творы ў самую глыбінку. Не было такога куточка, дзе не пабывалі б пісьменніцкія дэсанты... Але — па трапнай заўвазе Галіны Каржанеўскай — "думкі скачуць з мінулага ў сённяшняе..." Рыхтык у той рускай прыпевачцы: "Горе скачет, горе пляшет, горе песенки поёт..."

Што ж здарылася цяпер? А ўсё тая ж банальная — фінансавая — прычына. Ёсць зараз арганізацыя — спадкаемца Бюро прапаганды мастацкай літаратуры — літаратурна-інфармацыйнае прадпрыемства "Роднае слова". Аднак любы арганізаваны ім пісьменніцкі выезд выліваецца ў такія камандзіровачныя выдаткі, што "Роднае слова" адразу робіцца безнадзейным банкрутам.

А надзея ўсё ж ёсць — у дзяржаўнай падтрымцы памкнення пісьменнікаў данесці сваё слова да людзей у вусным выкананні. І ёсць ужо добры прыклад — для пачатку: арганізаваныя сумесна з Міністэрствам культуры і мясцовымі органамі ўлады пісьменніцкія выступленні, прысвечаныя 200-годдзю Адама Міцкевіча.

Гэткім жа шляхам прапаганды беларускай літаратуры павінен актыўней і шырэй карыстацца кнігагандаль. Упэўнены: ніхто з пісьменнікаў не адмовіцца ад сустрэчы і выступлення, калі кнігарня выставіць такі аргумент: "А там ваша кніжачка будзе прададзена, а вы аўтографы чытачам пакінеце..." Па сабе ведаю, супрацоўніцтва такое прыносіць плён.

У сістэме культурна-асветных установаў не апошняе, а хутчэй даволі прыкметнае, нават элітнае, месца займаў наш Дом літаратара — з яго бібліятэкай, метадычным цэнтрам, іншымі службамі.

Дом літаратара быў і стрыжнем творчай працы секцый і камісій Саюза пісьменнікаў: паэзіі (старшыня Казімір Камейша), прозы (старшыня Леанід Левановіч), крытыкі і літаратуразнаўства (старшыня Міхась Мушынскі), перакладаў і літаратурных узаемасувязей (старшыня Іван Чарота), драматургіі (старшыня Алесь Петрашкевіч), літаратуры для дзяцей і юнацтва (старшыня Артур Вольскі). Праца секцый арыентавалася на самае цеснае ўзаемадзеянне з Домам літаратара. Творчыя пытанні адольвалі вузкія цэхавыя рамкі, набывалі тут шырокі грамадскі рэзананс. Маю на ўвазе і прэзентацыі новых кніг, і "круглыя сталы", і творчыя вечары з абмеркаваннямі і дыскусіямі. Для маладых аўтараў, для пачаткоўцаў гэта была сапраўдная творчая школа. Дастаткова для прыкладу сказаць, што толькі секцыя паэзіі за апошнія чатыры гады абмеркавала творчасць каля 90 аўтараў, з іх 53 былі рэкамендаваныя для прыёму ў Саюз пісьменнікаў.

Галоўнае ж, што асяродак гэты — Дом літаратара — быў заўсёды нацыянальна арыентаваны, плённа працаваў на ніве адраджэння, прапагандаваў творчасць не толькі пісьменнікаў, але і славутых дзеячаў іншых мастацтваў.

Інакш і быць не магло, бо Дом літаратара праектаваўся і ўзводзіўся па заказе Саюза пісьменнікаў Беларусі як будынак спецыфічнага прызначэння — менавіта Дом літаратара, са сваімі спецыфічнымі літаратурна-

## Дыскусіі ў горадзе над Нёманам

**Пры канцы красавіка ў Гродзенскім універсітэце імя Я. Купалы адбылася міжнародная канферэнцыя "Узаемадзеянне літаратур у сусветным літаратурным працэсе". Гэта ўжо шостая па ліку канферэнцыя, якую праводзіць кафедра рускай і замежнай літаратур. Мне давялося ўдзельнічаць у трох, таму магу засведчыць, што з кожным годам яны становяцца і больш прэстыжнымі, і больш прадстаўнічымі. Важна, што ў рабоце прымалі ўдзел даследчыкі з Расіі, Польшчы, Славакіі. Вельмі шырока была прадстаўлена расійская правінцыя — Пскоў, Варонеж, Смаленск, Яледц, Самара, Каломна. Навуковы ўзровень — параўнаўча з канферэнцыяй, што праходзіла восенню ў Мінску — быў значна вышэйшы. Інстытут літаратуры НАН удзельнічаў трыма секцыйнымі паведамленнямі, хаця заяўлена было каля дзесятка. Становіцца ўжо традыцыяй — пасылаць заяўкі, а пасля не ехаць у надзеі, што паведамленне надрукуюць і так. Вось чаму заяўлена было 240 удзельнікаў, а прыехала 150. Гэта стварае пэўныя цяжкасці для арганізатараў.**

**Старшынёй аргкамітэта, як і ў мінулым годзе, была Т. Яўтуховіч (у прамежку паміж канферэнцыямі яна абараніла доктарскую, з чым яе і віншуем). Культурная праграма таксама адрознівалася разнастайнасцю і добрай арганізацыяй. Нам пашанцавала напярэдадні Вялікадня наведаць Жыровіцкі манастыр. Такога роду паездкі не толькі збліжаюць удзельнікаў, але і пашыраюць кругагляд.**

**Л. ТУРБІНА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Інстытута літаратуры НАН**

## Першыя караткевічаўскія...

**"Любая літаратура можа сказаць, што яна багатая і сталая, калі мае свайго Уладзіміра Караткевіча", — так напісаў у прадмове да зборніка У. Караткевіча "Быў. Ёсць. Буду" сябра пісьменніка Р. Барадулін.**

**Мы, беларусы, ганарымся, што маем У. Караткевіча. Так, маем, таму што ён заўсёды з намі: сваімі творамі, сваім жыццёвым прыкладам, сваёй геніяльнасцю. Яго творы вучаць нас любіць Радзіму, любіць сваю мову, яны ратуюць нас ад бездухоўнасці, дапамагаюць зразумець значнасць сваіх каранёў.**

**Пісьменнік, драматург, паэт, крытык, перакладчык, сцэнарыст, публіцыст — і ўсё гэта Уладзімір Караткевіч. Невыпадкова такая зацікаўленасць моладзі яго жыццёвым і творчым шляхам. Невыпадкова і мерапрыемства — Першыя караткевічаўскія чытанні школ Мінскага раёна, — што адбылося ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

**У чытаннях прынялі ўдзел 32 школы. З 34 рэфератаў, прадстаўленых на канферэнцыю, 12 атрымалі права прыняць у ёй удзел.**

**З прывітальным словам да прысутных звярнулася сястра У. Караткевіча, даўні сябра музея, захавальніца спадчыны пісьменніка Наталля Кучкоўская.**

**Сяргей Законнікаў расказаў аб тым уздзеянні, якое аказаў і аказвае на яго жыццёвы і творчы шлях Уладзімір Сямёнавіч.**

**Анатоль Верабей, даследчык творчасці У. Караткевіча, аўтар "Летапісу жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча" і кнігі пра пісьменніка "Абуджаная памяць", падвёў вынікі канферэнцыі і даў станоўчую адзнаку ўсім працам вучняў.**

**Карысным і цікавым для настаўніцкай і вучнёўскай аўдыторыі было выступленне выкладчыцы вышэйшага педагагічнага каледжа з Баранавіч Алены Барадзіной. Тэма яе даклада — "Фарміраванне гістарычнай свядомасці сродкамі літаратуры пры вывучэнні творчасці У. Караткевіча ў сярэдняй школе".**

**Хочацца адзначыць даклады, якія занялі першае, другое і трэцяе месцы: "Заклік стагоддзяў" (па аповесці "Сівая легенда") вучаніцы 10 класа Міханавіцкай СШ Наталлі Яраш і "На Беларусі Бог жыве..." (Біблейскія сюжэты і матывы ў паэзіі У. Караткевіча) вучаніцы 11 класа Трасянецкай СШ Яны Трыпуцінай (III месца); "З вякоў мінулых" вучня 11 класа Папярнянскай СШ Дзяніса Мардаса (II месца); "Прыцягненне любові" вучаніцы 11 класа Прывольненскай СШ Людмілы Чыжык (І месца).**

**Ад імя кіраўніцтва музея выказваем вялікую ўдзячнасць усім, хто прыняў удзел у чытаннях.**

**Дзякуй настаўнікам, якія кіравалі напісаннем рэфератаў. Маем надзею, што гэта не апошняе спатканне на Караткевічаўскіх чытаннях у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.**

**Зінаіда КУЧАР**

# Пакуль ёсць літаратура

ВЫСТУПЛЕННІ Ў СПРЭЧКАХ

З'езд прадоўжыў сваю работу справаздачай старшыні рэвізійнай камісіі Вячаслава Стомы. Дакладчык звярнуў увагу прысутных на недахопы ў працы кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, несправядлівае размеркаванне матэрыяльнай дапамогі, якой зболшага карысталіся самі члены кіраўніцтва; на негаспадарлівасць, з-за якой занялаў і Дом літаратара, і Дом творчасці пісьменнікаў "Іслач". Рэвізійная камісія ўнесла свае прапановы па змяненнях у Статуце Саюза пісьменнікаў, сярод іх — вызваліць ад членскіх узносаў пісьменнікаў ва ўзросце больш за 70 гадоў, а таксама інвалідаў, чарнобыльцаў і ўдзельнікаў вайны ў Афганістане; скараціць склад рады, а таксама колькасць штатных супрацоўнікаў СБП у тры разы, таму што на сёння, на думку рэвізійнай камісіі, гэты штат непамерна раздуты.

Намеснік кіраўніцтва Адміністрацыі Прэзідэнта **Іван Пашкевіч** у сваёй прамове адзначыў, што крытыка з боку пісьменнікаў у адрас афіцыйных уладаў не заўсёды бывае канструктыўнай. У многіх непаразуменнях, на думку дакладчыка, вінаватая безыніцыятыўнасць кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, нежаданне ісці на супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі, якія не атрымалі нават запрашэнняў на гэты з'езд. Не былі падтрыманы адпаведнымі сустрэчнымі ініцыятывамі прапановы па матэрыяльнай дапамозе ў правядзенні з'езда, пераглядзе памеру ганарараў, заснаванні фонду па падтрымцы стварэння твораў літаратуры і мастацтва. Параўю спадар Іван Пашкевіч не першым ставіць і праблему перадачы Дома літаратара "пад крыло" Адміністрацыі Прэзідэнта ў палітычную. Па сцвярджэнні дакладчыка, падставы дзеля гэтага чыста эканамічныя і вымушаныя.

Наступным слова ўзяў галоўны рэдактар часопіса "Маладосць" лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі пісьменнік **Генрых Далідовіч**. На яго думку, непаразуменні між пісьменнікамі і ўладамі спраўкаваны найперш моўна-нацыянальнай палітыкай дзяржавы, вынікамі сумнавядомага рэферэндуму аб мовах. Дзяржаўныя чыноўнікі не валодаюць беларускай мовай, на беларускай мове не складаюцца афіцыйныя паперы, знікае беларускамоўнае навучанне. Найлепшае выйсце з гэтага, на думку дакладчыка, пераканаць прэзідэнта Беларусі выдаць дэкрэт аб дзяржаўным забеспячэнні раўнапраўя беларускай мовы ў дзяржаве.

**Анатоль Сабалеўскі**, галоўны рэдактар часопіса "Тэатральная творчасць", прыцягнуў увагу з'езда да праблем выдання, якое



Ігнат Дуброўскі, Сяргей Грахоўскі і Анатоль Клышка.

ўзначальвае. Ім быў зачытаны ліст на імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, падпісаны знакамітымі дзеячамі тэатра, літаратуры і мастацтва, з просьбай знайсці сродкі для далейшага выдання часопіса "Тэатральная творчасць".

Народны пісьменнік Беларусі **Ніл Гілевіч** згадаў, як 32 гады таму, у сваёй першай прамове на чарговым з'ездзе Саюза пісьменнікаў, ён гаварыў аб праблемах існавання беларускай мовы. І сёння ён зноў вымушаны гаварыць пра тое ж. Мова вызначае натуральны шлях развіцця нацыі. Мова вывела нас у свет і абазначыла дадзенае нам Богам месца. Культурны ўзровень нацыі вызначаецца па адносінах да нацыянальнай мовы. На "трасянцы" інтэлектуальная асоба вырасці не зможа. На думку прамоўцы, працэс удушэння беларускага слова набірае сілу. Ён заўважыў, што, на яго думку, звышнаўнасць думаць, быццам у нашых умовах існаванне двух дзяржаўных моў — справядліва. Непазбежна гэта прывядзе да занепаду беларускай мовы. Першы абавязак беларускага пісьменніка — змагацца за суверэнную, незалежную Беларусь.

Сёння адбываецца глабальны наступ антыбеларускіх сіл на дзяржаўнасць, суверэннасць, мову беларусаў. Канчатковая мэта гэтага — уз'яднанне Беларусі з Расіяй і стварэнне адзінай, рускай, дзяржавы, знішчыць беларускі народ. Сапраўднае брацтва між

славянскімі народамі будзе тады, калі на Беларусі запануе беларуская мова. А між тым ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння магла б мабілізаваць духоўныя сілы народа. Выступоўца з горыччу заўважыў, што ніводзін рускі дзеяч культуры — артыст, пісьменнік і г.д.—не выказаў абурэння тым, што робіцца зараз з беларускай культурай. Фактычна яны падтрымліваюць этнагенацыд беларускага народа. "Нас падзялілі і зрабілі выгляд, што мы самі гэтага хочам", — сказаў Н. Гілевіч і напрыканцы зазначыў: "Час ніколі не даруе тым, хто сёння застанецца ўбаку ад змагання за лёс народа".

Паэт **Кастусь Цвірка** расказаў пра ўтвораные самімі пісьменнікамі выдавецтва "Беларускі кнігазбор", якое паставіла за мэту выданне 200 тамоў адметных твораў беларускай літаратуры XIX—XX стст.

Міністр культуры **Аляксандр Сасноўскі** зазначыў, што сярод творчых саюзаў Беларусі самыя неналаджаныя сувязі ў яго міністэрства — з Саюзам пісьменнікаў, віну за што прамоўца ўсклаў на кіраўніцтва Саюза. На думку А. Сасноўскага, дзяржава падтрымлівае беларускую мову і літаратуру, у прыватнасці, у Міністэрстве культуры беларуская мова — працоўная. Ніякім дэкрэтам не прымусіш усіх адразу загаварыць на беларускай мове. Але шматзначны факт — на апошніх уступных экзаменах у інстытут культуры 80 працэнтаў абітурыентаў выбралі для пісь-

творчымі і культурна-асветнымі функцыямі.

Больш дваццаці год беларускія пісьменнікі — ужо не адно пакаленне — працавалі, наладжвалі творчае жыццё ў Доме літаратара, па праве лічылі яго сваім другім домам. І сваёй калектыўнай уласнасцю, дарэчы...

Непаразуменні ж вакол Дома літаратара пачаліся, як на падставе распараджэння Прэзідэнта РБ "О передаче в оперативное управление Управления делами Президента Республики Беларусь зданий в г. Минске", у даволі доўгім пераліку будынкаў, у самым канцы сціпла было пазначана: "Фрунзе, 5". Недасведчаны чалавек мог і не здагадацца, што маецца на ўвазе Дом літаратара, а нам недвухсэнсоўна было заяўлена: "Забудзьце гэтую назву — Дом літаратара. Ёсць адміністрацыйны будынак па вул. Фрунзе, 5".

У сваёй заяве "Аб Доме літаратара СПБ" прэзідыум рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая была змешчана ў друку і паслана Прэзідэнту РБ, пераканаўча даводзіў, што разбурэнне функцыянальных асноў Дома літаратара — з'ява антылітаратурная, антыкультурная.

Прыводзілася аргументацыя, што будынак, перададзены ў 1976 годзе на баланс Саюза пісьменнікаў УКБ Мінгарвыканкама (як непасрэдным выканаўцам заказу) паводле адпаведнага рашэння Саўміна БССР, з'яўляецца калектыўнай уласнасцю нашага творчага Саюза. Бо сродкі на будаўніцтва выдзяляліся Літфондам СССР са звышпланавых капітальных укладанняў для творчых саюзаў СССР. А паступалі яны ў рэспубліку па тагачасных законах з Саюза пісьменнікаў СССР праз Дзяржплан СССР. А па-другое, і гэта, можа, самае галоўнае: адкуль бы сродкі ні паступалі адпаведнай грамадскай арганізацыі, яны рабіліся ўласнасцю гэтай грамадскай арганізацыі. У Статуце ж Саюза пісьменнікаў СССР (1971 г.), па якому дзейнічаў і працаваў і Саюз пісьменнікаў Беларусі, ясна сказана: "Средства Союза писателей СССР образуются из... — ідзе пералік — і пункт... б) специальных ассигнований, выделяемых в установленном порядке советскими учреждениями и общественными организациями". А гэта значыць, калі так — "не мудрствуя": далі Саюзу пісьменнікаў рубель (хто б ні даў!) — гэта ўжо наша ўласнасць, — можам яго прагуляць у "пульку", можам Дом літаратара будаваць...

Гэты момант вельмі і вельмі важны. Дарэчы, па ўсіх фінансавых дакументах праходзіць фармулёўка: не на "будаўніцтва Дома літаратара", а "Саюзу пісьменнікаў для будаўніцтва Дома літаратара". І мы звярталі ўвагу суддзі Вышэйшага гаспадарчага суда РБ, дзе разглядалася справа аб праве ўласнасці Саюза пісьменнікаў на Дом літаратара, на гэтыя акалічнасці. Суддзя як быццам бы і пагаджаўся, ды прысуд быў усё ж не на нашу карысць, — пераважылі іншыя аргументы... Рашэнне суда было апошняй кропкай: можам пагаджацца, можам не пагаджацца, а справа закрыта. Мы выкарысталі, здаецца, усе магчымыя спосабы і сродкі, якія вызначаліся калектыўна радай і Прэзідыумам рады Саюза пісьменнікаў, каб даказаць слушнасць сваіх пазіцый — ад публічных заяў і зваротаў, інтэрв'ю і выступленняў у друку да пікетавання. Былі і непасрэдныя афіцыйныя звароты і асабістыя пісьмы вядомых пісьменнікаў да Прэзідэнта.



*Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч і пісьменнікі Уладзімір Бандарэнка (Расія), Эдуард Скобелеў.*

Адказ прагучаў на сустрэчы з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі, сэнс такі: мы навядзём парадак у Доме літаратара". Што ж — спрачацца ніхто не будзе: не ўсё, можа, дастойна пахвалы ў ягонай працы. Але ж гэта не падстава закрэсліваць Дом літаратара, пакідаць у няпэўнасці ягоны калектыў. Сэнс пісьменніцкіх выступленняў быў і застаецца зусім просты і гранічна ясны: Дом літаратара павінен быць захаваны як адзіны цэнтр літаратурнага жыцця, як відны культурны асяродак рэспублікі.

Мае ласку дзяржава падтрымаць Дом літаратара, прафінансаваць часткова яго дзейнасць — калі ласка. Бо не ад добрага ж жыцця здавалася Домам літаратара частка плошчы ў арэнду, а каб выжыць, каб не спыніць працу... А праца была — цікавая, творчая...

Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, Язэп Лёсік, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Драздовіч, Максім Танк, Пімен Панчанка, Алесь Звонак, Ізі Харык, Сяргей Грахоўскі, Мікола Аўрамчык, Ніл Гілевіч, Ігар Лучанок, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Данута Бічэль, Ніна Мацяш, Раман Тармола, Анатоль Зэкаў, Леанід Дранько-Майсюк... і г. д. і г. д., з году ў год, кожны месяц — сама меней паўдзесятка літаратурных вечароў:

*(Працяг на стар. 14-15)*

# — ёсць народ

мовых работ беларускую мову.

Старшыня Саюза кампазітараў Беларусі **Ігар Лучанок** падзякаваў ад імя свайго саюза пісьменнікам за плённае супрацоўніцтва і выказаў упэўненасць, што такое супрацоўніцтва прадоўжыцца.

Паэт **Генадзь Бураўкін** адзначыў, што ў перадз'ездаўскіх выступленнях некаторых асоб сцвярджалася, быццам Саюз пісьменнікаў канае. На думку прамоўцы, Саюз сапраўды хворы, пра што сведчыць паспешлівы прыём у яго апошнім часам не толькі кепскіх пісьменнікаў, але і малапісьменных людзей. Прамоўца звярнуўся да гасцей з Расіі. На яго думку, рускія пісьменнікі вязуць сюды свой вопыт расколу пісьменніцкага саюза. Лагічней было б тым, хто хоча на Беларусі стварыць асобны саюз рускамоўных пісьменнікаў, уступаць у іх расійскі саюз. Прамоўца адзначыў нерашучасць і няўмеласць былога кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі. Звярнуў увагу на тое, што на адкрыты ліст народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна да Прэзідэнта так і не было ніякага адказу, што з'яўляецца пэўным паказчыкам культуры вярхоўнай улады дзяржавы. На думку прамоўцы, калі ўлада хоча, каб яе паважалі, трэба, каб яна паважала культуру народа, якім кіруе. Пакуль жа нацыянальнай культурай кіруюць чыноўнікі, раўнадушныя да яе, беларуская інтэлігенцыя не будзе заадно з урадам.

Дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі пісьменнік **Георгій Марчук** распавёў пра нялёгкае становішча з выданнем беларускіх кніг. На сённяшні дзень кнігі ў выдавецтве яшчэ выходзяць толькі дзякуючы бескарыслівасці супрацоўнікаў Дома друку і друкарні імя Я. Коласа, бо грошай за іх працу выдавецтва выплаціць не ў стане. Сёння выдавецтва вымушана само займацца распаўсюджваннем беларускай літаратуры, а рабіць гэта вельмі складана. Бібліятэкі не маюць сродкаў для фармавання фондаў; у вёску беларуская кніга зусім не даходзіць... А між тым пакуль ёсць кніга — ёсць народ, ёсць культура. Адзначыў прамоўца і няўважнае стаўленне да пісьменнікаў з боку дзяржаўных прэсы і тэлебачання.

Пісьменнік **Уладзімір Дамашэвіч** выказаў спадзяванне на тое, што мова, культура Беларусі ўсё роўна адродзяцца — як адраджаецца трава там, дзе з зямлі прыбіраюць каменную пліту.

Пасля перапынку на абед з'езд прадоўжыў сваю работу.

**Авяр'ян Дзяржынскі** — і не без падстаў — наракаў на нявытрыманасць пісьменніцкай аўдыторыі, на недахоп культуры. "Выхоўваць і яшчэ раз выхоўваць" — такой была асноўная думка яго выступлення.

**Данута Бічэль,** зазначыўшы, што літаратура па ўсім свеце ў крызісе, звярнулася да мясцовых рэалій. На яе думку, наша творчая арганізацыя не здольная рэфармавацца. Застаецца адно — выдаваць рукапісныя зборнікі ды здаваць іх у архіў. Яна кінула папрок мінчукам — маўляў, яны як сабакі на сене: толькі сябе шануюць і выдаюць, — і досыць падрабязна распавяла пра "польскія" справы ў Гародні і канфлікт вакол будынка абласнога аддзялення СБП.

Пра недахоп увагі да пісьменнікаў, што жывуць на перыферыі, гаварыў і **Алесь Каско**. Ён да таго ж гразіўся стварыць свой берасцейскі саюз, праўда, сам жа сябе і астудзіў: "Тамтэйшыя інтэгратары не дадуць нам выжыць". У дадатак ён прапанаваў выключыць з нашай суполкі А. Аўруціна, які "праславіўся" антыбеларускімі публікацыямі ў друку.

Выступленне **Віктара Яраца** сваім пафасам нагадвала прамову Н. Гілевіча: бядотны стан мовы, жалезабетонная сцяна чынавенства, фарысейства многіх літаратараў, якія пабаяліся выступіць супраць апошняга рэферэндуму... У раённых газетах Гомельшчыны беларускімі засталіся адно загалоўкі, няспынна падаюць тыражы "Звязды" і "ЛіМа". "Даравання гісторыі не будзе" — такім быў ягоны прысуд уладу маючым

**Вольга Іпатава** выказала сумненне адносна таго, ці зможам мы паразумецца з уладай. У крайнім выпадку дадуць нам торбу з аўсом, каб ціхенька хрумсцелі. Тым часам свядомую моладзь будуць па-ранейшаму збіваць і знявольваць. Хіба можна не бачыць гэтага? Саюз пісьменнікаў павінен стаць апорай для тых, хто яшчэ не адвык чытаць па-беларуску, стаць асяродкам прыстойнасці. мужнасці, урэшце — беларускасці.

**Вячаслава Адамчыка** трывожыць непамерны колькасны рост нашай арганізацыі. "Чым болей нас, тым болей мы раз'яднаны. Хто запісаны ў Пэн-клуб, хто адданы п'янклубу, хто ў агрэсіўным ультрасаюзе, хто ў зацішнай павятовай філіі". Ён — за саюз прафесійных літаратараў, які будзе заснаваны на наступных прынцыпах:

1. Мы шануем нашых продкаў.
2. Мы аб'ядналіся, каб ратаваць Беларусь і вярнуць ёй гонар нацыі.
3. Мы супраць тых, хто арыентуе нашу незалежнасць як на Усход, так і на Захад.
4. Літаратура — наша прафесія.
5. У нас роўнасць паміж членамі і роўнасць абавязкаў. У нас няма літаратурных генералаў.
6. Мы за разнастайнасць літаратурных жанраў і формаў.
7. Мы за творчыя кантакты з усім прагрэсіўным літаратурным светам.
8. Мы, не будучы ў апазіцыі да дзяржаўных структур, мусім быць, аднак, у цэнтры грамадскіх падзей.
9. Мы мусім зберагчы маладое пакаленне ад бязроднага касмапалізму, СНІДу і наркаманіі, а нашу Бацькаўшчыну — ад экалагічнай катастрофы.
10. Мы за гуманны лад у жыцці і за беларускасць як у боскіх святынях, так і ў дзяржаўных структурах.

Выступілі таксама **Анатоль Майсееў** (ад імя пісьменнікаў-інвалідаў), **Яраслаў Клімуць, Аляксей Слесарэнка**, а таксама старшыня Дзяржкамдруку **Міхаіл Падгайны.**

Працэс вылучэння кандыдатаў на старшыню саюза прайшоў досыць арганізавана, у чым ёсць заслуга і А. Дударава, каму даверылі весці гэты адказны перыяд работы з'езда. Склад абраных на з'ездзе рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, Літфонду СБП і рэвізійнай камісіі будуць надрукаваны.



*Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Сасноўскі, Васіль Івашын і Генадзь Бураўкін.*



*Янка Сіпакоў і Янка Брыль.* Фота А. ПРУПАСА

## Беларускаму чытачу — беларускую кнігу...

15 красавіка ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце адбылася прэзентацыя кнігі Уладзіміра Жылкі "Выбраныя творы". Гэта ўжо 5-ты том "Беларускага кнігазбору".

Як сказаў Васіль Зуёнак, "Беларускі кнігазбор" мае перад сабой мэту: даць беларускаму чытачу беларускую кнігу з самага пачатку яе ўзнікнення і да сённяшняга часу". І чарговым крокам стаў зборнік паэзіі Уладзіміра Жылкі — таленавітай і трагічнай асобы, творчасць якога была забаронена да 60-ых гадоў.

На прэзентацыі выступілі таксама прэзідэнт "Беларускага кнігазбору" Кастусь Цвірка, Міхась Скобла — укладальнік і аўтар прадмовы, Язэп Янушкевіч — літаратуразнавец, загадчыца кафедры беларускай літаратуры БДПУ Марыя Шаўлоўская. Прысутныя мелі магчымасць пазнаёміцца са сваякамі У. Жылкі, якія выказалі шчырую ўдзячнасць усім, хто мае дачыненне да выпуску зборніка і ўвогуле да даследавання творчасці У. Жылкі. Прагучалі вершы У. Жылкі ў выкананні артыста тэатра юнага гледача Міколы Лявончыка і песні на вершы паэта, якія прапанавалі ўвазе прысутных бард Алесь Камоцкі і студэнтка Вольга Бурак.

Алена КЛЯШЧОНАК

## Сёстры-паэтэсы

А да ўсяго — аўтаркі калектыўнага зборніка паэзіі, што стаў другой кніжкай "Бібліятэкі часопіса "Маладосць" за сёлетні год. Пры гэтым кожная з аўтарак мае як бы ўласны зборнічак. Таіса Трафімава назвала яго "Усміхнуся вятрам". Родам яна з пасёлка Манькова Слуцкага раёна, скончыла Мінскае педагагічнае вучылішча, Маскоўскі народны універсітэт мастацтваў, факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Друкавалася ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", часопісах "Полымя", "Маладосць", "Роднае слова", "Першацвет", калектыўным зборніку "Нас слова Купалы да творчасці кліча". Працуе ў Цэнтры эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў у Маладзечне і ўзначальвае дзіцячае літаратурнае аб'яднанне "Узлёт". А вось Зоя Падліпская (абедзве яны ў дзявоцтве — Янучок) засталася на любай сэрцы Случчыне — працуе настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Слуцкай сярэдняй школе N 10. Перад гэтым скончыла Слуцкае медыцынскае вучылішча. Мае і вышэйшую адукацыю — скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага універсітэта. Таксама друкавалася ў "ЛіМе", "Полымі", "Родным слове", у "Першацвеце" і ў тым жа калектыўным зборніку маладых літаратараў Міншчыны "Нас слова Купалы да творчасці кліча". Кніжачку сваю назвала "Палон нябёсаў".

Прадмову да гэтага калектыўнага зборніка ("Замова сэрцам") напісаў Казімір Камейша. Свае слова ён заканчвае такімі радкамі: "Вітаючы паэтычны дэбют Таісы Трафімавай і Зоі Падліпскай, хочацца пажадаць ім шчаслівай творчай дарогі. Хай менш будзе ў іх радках сумнага і больш светлага. Але гэта не заўсёды залежыць ад паэта, гэта амаль заўсёды залежыць ад самога жыцця.

А прысвяцілі сёстры-паэтэсы свае прачулае слова памяці маці Ганны Канстанцінаўны Янучок. Яны ж выказалі падзяку фундатарам Уладзіміру Карачуну, Наталлі Пшанічнай, дырэктару МП "Квант" г. Слуцка Мікалаю Чарняўскаму, а таксама ўсім, хто паспрыяў выданню гэтага зборніка.

## Вітко — не Вітка, але...

Жывапісец Уладзімір Вітко жыве і працуе ў Віцебску. Але ўжо ягонае прозвішча сведчыць, што нарадзіўся ён на Случчыне — усе мы ведаем імя слыннага паэта-случака Васіля Вітку, хоць гэтае прозвішча для Цімоха Васільевіча — усяго псеўданім. Абодва яны ніколі не забывалі пра сваю малую радзіму. У. Вітко памятае пра яе і цяпер. Тым больш і нагода надарылася, каб наладзіць перад землякамі творчую справаздачу — 10 мая Уладзіміру Ільічу спаўняецца 65 гадоў. І хоць мастак прымае ўдзел у выстаўках з 1962 года, а яго асобныя творы трапілі і ў замежныя калекцыі, гэтая, што ладзіцца цяпер у памяшканні Слуцкага краязнаўчага музея, — ці не адна з самых дарагіх для яго. Вядома, сабрана на ёй толькі самае лепшае. А калі акінуць позіркам творчы шлях, пройдзены У. Вітко, зроблена ім нямала. Уладзімір Ільіч працуе ў жанры тэматычнай карціны, пейзажа, нацюрморта, партрэта. Ды і самыя розныя тэмы яго цікавяць — і наша сучаснасць, і мінулая вайна, чаму ён дае сваё мастакоўскае вытлумачэнне і раскрыццё.

ПАЭЗІЯ

Леанід ЯЎМЕНАЎ



## "Шапчу я вершы, як малітву"

### Нараджэнне паэта

*Дзесьці горла дзяруць драчы,*
*Дзесьці фыркаюць сонныя коні —*
*Я накрыюся небам начы,*
*Уладкую пад голаў поўню.*

*Буду слухаць аер ля ракі*
*І дзівіцца, як жмурацца зоркі,*
*Як шапочуць з дубровай вякі*
*На сівым урасельм золку.*

*Я на мрояў чароўных мяжы,*
*Дзе пачуцці зліваюцца й гукі,*
*Буду слухаць малітвы душы*
*Ды дзівіцца, як рояцца думкі...*

*Гэта час нараджэння, калі*
*Прачуваешся раптам паэтам,*
*Кропляй сціплаю роднай зямлі,*
*Неад'емнай часцінкай сусвету.*

### Прадвесне

*Няўлежна зіме, нібы ў тропіках —*
*Гукаюць цяпло пугачы,*
*Брыняе гаючым кляновікам*
*Прадвесне у чуйнай начы.*

*Мілуецца люты з мяцеліцай*
*Па капішчах даўніх Багоў —*
*Вясною зіма ужо целіцца*
*Пад сцюжнага неба страхой.*

*Пачуцці у сэрцы не месяцца,*
*Бы ў вырай лятуць у радок —*
*Люляю я ласкаю месяца*
*Адвечнасці родны куток...*

●

*Штодня ўсё шчыльней сіло*
*Здзічэлых спрытнюг базару:*
*Як шчасце — у хаце цяпло,*
*Бляшанка хамсы — як мара.*

*Між намі дабро ўсё радзей,*
*Знікае ў нябыт спагада,*
*Спраўляе нядоля свой рэй*
*Па змучаных лёсам хатах.*

*Няведама, будзе ці не*
*Тут лад хоць якісь калісьці?*
*Ні кропелькі сонца ў акне,*
*З начы аніякага выйсця...*

*У стыні ваўчыцай прыпоўз*
*Дагэтуль забыты голад,*
*За плечы бярэ мароз,*
*За сэрца — магільны холад...*

### Не пакінь мяне

З. Я.

*Пражыву я без сонца,*
*Пражыву я без вершаў,*
*Пражыву без бароў.*

*Пражыву я без буры,*
*Пражыву я без птушак,*
*Пражыву без вясны.*

*Ды ніводнага года,*
*Ды ніводнага тыдня,*
*Ды ніводнай гадзіны*
*Не змагу — без цябе.*

*Не пакінь мяне ў свеце,*
*Гэткім жорсткім, драпежным,*
*Не пакінь, мая вера,*
*Не пакінь аднаго...*

●

*Люты мароз,*
*Зыркае сонца,*
*Стынь да нябёс,*
*Скруха да донца.*

*Змучаны край,*
*Немач сусвету, —*
*Шэрасці рай,*
*Баль прайдзісветаў.*

*Гора людзей,*
*Роскіды меры,*
*Сконы надзей, —*
*Могілкі веры.*

*Святы кляцця,*
*Леты расстання, —*
*Захад жыцця,*
*Попел кахання.*

*Стынь да нябёс,*
*Скруха да донца, —*
*Скручаны лёс,*
*Змерзлае сонца...*

●

*Шматкроць жыццём і лёсам збіты,*
*Сябрамі здраджаны не раз,*
*Шапчу я вершы, як малітву,*
*Як паратунак ад параз.*

*Пакуль барок якісь сасновы*
*Не прыме сумна на клады,*
*Яны мой стогн, мая замова*
*Ад чорнай крыўды і бяды...*

### Крыжаносцы

*Імкнуць натоўпам маладыя*
*Без пэўнай мэты, без развагі, —*
*Хрыстовы крыжыкі на шыях,*
*Расхлістаныя на распахі...*

*Мо ім няма куды падзецца,*
*Мо ім святлом — даўно былое,*
*Мо крыж ратуе ў юных сэрцах*
*Зніч вечнай веры у святое?..*

*Якая вера? Посмех горкі! —*
*Базарная какотка мода:*
*У душах — ні крыжа, ні зоркі,*
*На шыях — крамная блазнота...*

### Плач у ліпеньскую ноч

А. Ё.

*Душны морак ахутаў сяло:*
*Цішыня, зоркапад, цвыркуны...*
*Што было, ўсё быллём парасло —*
*Крыўды боль дзесь пад сэрцам заныў....*

*Бо няма ў роднай хаце цяпла,*
*Бо агеньчык кахання патух, —*
*Жонка з хаты уночку сышла,*
*З хаты стаўся астылы катух...*

*І заплакала скрыпка ў глушы*
*Болем жалю у чорнай начы,*
*Чалавечай бядою ў душы*
*Хоць і сам галасі ды крычы...*

*Што было, то быллём парасло —*
*Плача зорны ліпнёвы прасцяг...*
*Душны морак ахутаў сяло,*
*Горкі стогн язэ сэрца працяў...*

### Апошняе жаданне

З. Я.

*Без цябе, што пры полі дубок*
*Ці у небе самотны птах —*
*Асірочаны слых і зрок,*
*Ненатолены сум і жах...*

*Мо таму у кашмарных снах*
*Я губляю у цемры твой след,*
*Мо таму сцерагу па начах*
*Твой начны летуценны свет.*

*Толькі болей пакутлівых сноў*
*Я баюся, што буры набег*
*Ірване маё сэрца ізноў*
*Ў неадольнай далі ад цябе.*

*Там, дзе стогнуць чужыя вятры,*
*Дзе бядуюць чужыя лясы, —*
*Без вачэй, што ад сумнай зары,*
*Без агорклай ад гора слязы...*

*Я не многа прашу у жыцця,*
*Хай дазволіць мне лёсу рака*
*Адысці у быццё небыцця*
*На тваіх спрацаваных руках...*

ПРОЗА

ЯК І ТРЭБА БЫЛО чакаць, сам Міндоўг не зажадаў ехаць на паклон да Данілы ў Холм; падаліся Войшалк і Усяслаў — праўда, рашылі не ва ўсім слухаць Данілу, не прыхапілі з сабой Усяслававых сыноў.

Выбраліся ў слотную восень, калі нізка навісла шэрае неба, не толькі абляцела, зрыжэла, але і пачарнела на доле лісце, ліў і ліў дождж, выў і выў вецер, а перад самым ад'ездам нечакана ўсё заціхла і дыхнула ледзяным поцягам — значыць, вось-вось павінны былі пабыць сухія дні, пасці з паветра на зямлю мароз, пайсці снег і ўлегчыся новая, адзін толькі Бог ведае якая па ліку зіма.

Пабудаваны па Данілавым імпэце Холм стаяў на прыгожай, лясістай і ўзвышанай мясціне, многія будыніны былі з белага і зеленкавага камянёў, абкладзеныя пунсовым мармурам, свяціўся пазалочанымі купаламі, — але ў гэтым горадзе, што па багацці, красе і пышнасці не саступаў некаторым старым гарадам, Войшалку і Усяславу было маркотна на душы: іх упусцілі ў Данілаву сталіцу, але, хоць ім спачувала, употай падкормлівала Данілава жонка, Войшалкава стрыечная сястра Юрата, усё ж абыходзіліся з імі холадна і насмешліва, як з пераможанымі прасіцелямі. Яны нудзіліся тут глыбокай восенню, чакаючы, калі вернецца Даніла ў Холм і пакліча іх да сябе.

Цяпер яны добра ведалі, чаму нядаўна Даніла гэтак паспешліва адступіў ад Навагародка: на яго землі з карніцкай місіяй рушыў Батыеў намеснік на іх хан Курамса, а яшчэ Данілу, адбіўшы мангола-татарскі напад, прыйшлося з немалой сілаю тут жа ісці ў Чэхію і выратоўваць з аблогі сына Рамана (з Данілам у паход хадзіў і беспрытульны літоўскі князь Таўцівіл). Хан Курамса, не ўзяўшы Крамянца, адступіў у "земли своя", Раман не ўсеўся на аўстрыйскі пасад, але быў выратаваны ад зняволення, а то і пагібелі, вярнуўся дахаты, але Даніла не спяшаўся бачыць Войшалка і Усяслава, таміў іх, каб папакутавалі і пасля, на яго думку, былі больш згаворлівыя і паслухмяныя — гэтак уладары рабілі і задоўга да Данілы, і будуць рабіць нашмат пазней за яго. Нават Данілава любіміца, маладая і прыгожая Юрата (а ёй па-ранейшаму падносілі багатыя падарункі) не магла ім паспрыяць — як казала, яе заступніцтва за сваіх землякоў Даніла ўспрымаў з жартам і пацвельваннем, а калі яна крыўдзілася, плакала, суцяшаў і ўталкоўваў, што яна — не проста Войшалкава сваячка, а жонка караля Галіцка-Валынскай дзяржавы, дык павінна паводзіцца іначай, з яго, мужавых і дзяржаўных інтарэсаў.

Наздзекаваўшыся, толькі напрыканцы зімы — больш ранняй тут, у цяплейшым краі, чым у Навагародку, калі ачысцілася, амаладзела за холад і аблакітнілася неба, павышэла і паярчылася сонца, весела закапалі капяжы, пачаў асядаць, раставаць у зацішках снег, загалёкалі па наваколлі гракі, — знуджаных па сваім доме Войшалка і Усяслава паклікалі ў Данілаў палац. Не проста на сустрэчу і на гутарку, а на лёсавызначальнае для ўсёй Навагародскай зямлі. Летапісцы пра гэта напішуць адзін-два радкі, але для гісторыі тое будзе шмат значыць.

Войшалка і Усяслава позна вечарам прывялі ў прасторную, размаляваную яркімі фарбамі, заморскімі вялікімі і дзівоснымі птахамі палату, дзе, патрэскваючы і мігаючы, гарэла шмат свечак у бронзавых свечніцах на стале і паабапал яго на сценах, сваім святлом яшчэ больш адзівосніваючы тыя райскія птушкі, некаторыя з якіх чамусьці былі з жаночымі галовамі, а таксама траву ды кветкі, што ўсё было складзена з шматкаляровага шкла і эмалі, пасярэбрана і падзалочана — Даніла не ў прыклад князям Ізяславу і Міндоўгу любіў не ўсё простае, а пышнотнае.

Калі яны, запрошаныя, як і раней, селі насупраць адны адных за накрытым зялёным сукном сталом, то з самага першага мігу не маглі не ўгледзець яшчэ, апроч пітства і разнатраўя, і выкладзены шматколерным шклом малюнак Галіцка-Валынскай зямлі, дзе таўставатым залатым дротам былі абазначаны знаёмыя вялікія рэкі, танчэйшым — меншыя, а вялікія гарады — буйнымі рубінамі (сярод іх былі і Бярэсце, Гарадзен, Услонім, Ваўкавыск, Ноўгарадак і Кіеў, што цяпер належаў Залессю). Асобна была выява і іншых зямель — польскіх, яцвяжскіх, полацкай, літоўскай, жамойцкай і яе суседзяў.

Даніла — па-ранейшаму прыгожы з ацяжэласцю і асівеласцю, у сваёй, як вядома любімай апратцы, у сінім карзне, зашпіленым на правым плечуку залатой фібулаю, пад плашчом — саф'янавая безрукаўка і ружовая кашуля, сінія

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# ЖЫВЕ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!



## СТАРОНКІ З РАМАНА "КЛІЧ РОДНАГА ЗВОНА"

Закончыў раман "Кліч роднага звона".

У першай частцы, што друкавалася ў "Полымі" ў NN 10—11 за 1995 год, а летась выйшла кнігай у выдавецтве "Юнацтва", была мая празаічная версія пра падзеі вакол Навагародка ў 1245—1246 гады, калі ён, ацалеўшы ад мангольскага нашэсця, даволі мірна аб'яднаўшы вакол сябе слонімскія, ваўкавыскія, гарадзенскія і іншыя землі, зноў жа без вайны замахнуўся на Літву, што была паміж сённяшнімі Маладзечнам, Мінскам, Слонімам і Навагрудкам. Для гэтага знайшлі просты, але мудры ход: запрасілі княжыць у Навагародку ўладара Літвы Міндоўга.

У другой, заключнай частцы — маё асэнсаванне 1250—1270 гадоў, калі многія суседзі насцярожыліся ростам, узмацненнем Навагародска-Літоўскага гаспадарства і пачалі супраць яго войны, у тым ліку і кааліцыйныя. Асабліва намагаўся раскалоць Навагародак і Літву, падуладзіць іх уладар Галіча і Валыні князь (услед за Міндоўгам і кароль) Даніла. Ён і яго сыны нават не брыдзіліся наводзіць сюды чужынцаў — палаўцаў і манголаў. Ды нашы продкі і ў войны, і дыпламатыяй не толькі ўстоялі, але пазней утварылі адну з буйнейшых у Еўропе дзяржаву, дзе ва ўсім пераважаў беларускі лад.

Ва ўрыўку, што прапаноўваю ўвазе чытача, маё разуменне таго, на мяжы 1253—1254 гадоў, ходу, да якога прыбеглі навагародцы, каб ўратавацца ад Данілы, калі апошні ўжо тры разы за пяцігоддзе ўцягваў у войны, спусташаў Навагародскую зямлю і ледзь не ўзяў саму яе сталіцу.

**АЎТАР**

шырокія шаравары і жоўтыя боты. Як і раней, на левым баку на скураным поясе — прадзедаўскі меч.

— Здаровы былі, — недружалюбна адказаў на іхняе прывітанне Даніла і рукі не падаў. — Поўныя злосці на мяне?

Войшалк і Усяслаў змаўчалі.

— Зацяліся! — пазларадн ічаў Даніла, мігнуўшы брату Васільку, сынам. — Крыўдзяцца, што столькі месяцаў чакалі доступу да мяне!

Зноў на ягоныя словы — маўчанне.

Бачачы іхнюю вытрымку, Даніла яшчэ больш атакаваў:

— Ну, з чым прыехалі? Зноў цягнуць ката за хвост, самім на сябе наклікаць вайну?

— Войны, кароль, аслабілі Навагародак, але і цябе не ўзмацнілі, — падаў голас Войшалк. — Шмат патраціў ты сіл на мунгалаў, на яцвягаў, на нас і чэшскага караля. Няма цяпер у цябе моцы пачаць новую вайну.

— Дарма не трацілі тут часу, вывіжоўвалі! — ухмыльнуўся Даніла.

— Ды відаць усё і без вывіжоўвання, — уставіў свае слова Усяслаў. — Хопіць аднаго позірку, уздыху, каб усё зразумець. Захапіўся ты войнамі, Даніла. Шкодзіш сам сабе. Вось так, кароль!

— Ды перастаньце вы: "кароль" ды "кароль!" — скрывіўся гаспадар. — Я такі ж кароль, як і ваш Мендог... Што-што, а гэта патаемнае мы ўсе ведаем: я і Мендог былі, ёсць і будзем князямі, праваслаўнымі!.. — А пасля гэтага да Усяслава: — ты чаму прыехаў адзін? Хіба табе не перадалі, што ты павінен прыехаць з сынамі?

— Суровая зіма, дык як марозіць малых дзяцей у доўгай дарозе? — апраўдаўся Усяслаў, хоць для Данілы не было ніякім сакрэтам, што гэта ўсяго толькі загадзя прадуманы падход, нават пэўная смеласць.

— Зіма зімою! — незалюбіў Даніла і ў яго ўзбоч вачэй ды пад імі паглыбеліся зморшчыны немаладога ўжо і спераж ыванага эмацыянальнага чалавека. — Ты, ліс, падумаў: выкручваліся раней — выкруцімся і цяпер! Ды не выкруціцеся! Дацісну! Даб'ю! Пастаўлю на коленцы!

— Калі і з апошніх сіл даб'ешся перамогі, то ніяк не спажывеш яе! — усміхнуўся адмыслова Войшалк. — Надарвешся! Нават больш — сам станеш камусьці лёгкай здабычаю!

— Вы да мяне прыехалі зноў толькі з такім? — занегадаваў, запунсовеў Даніла, стукаючы па стале кулаком. — Ушчуваць, запалохваць мяне? Зацягваць перамовы і выйграваць час?

— Упарты ты, князь-кароль, — сказаў Войшалк. — Ніяк не можаш пераадолець сваю хцівасць, злосць і помсту. Адумайся, набярыся мудрасці: Навагародская зямля і Літва — ужо новая дзяржава. Так ужо распарадзіўся сам Бог. Разлучыць нас, скарыць табе не хопіць сілы!

Гэтыя словы проста ашаленілі Данілу:

— Надарвуся, траплю ў кіпцюры іншага, але па-вашаму не будзе! Я не дам вам амацавацца!

— І, па-твойму, няма выйсця з гэтага неразумнага супрацьстаяння? — зноў Войшалк прамовіў з усмешкаю, што была непрыемнай Данілу.

— Ёсць! — выгукнуў той. — Навагародак і Літва разлучаюцца, ты і твой бацька вяртаецеся ў сваю вотчыну, а ў Навагародку сядзе і будзе княжыць як мой васал мой сын. Раман альбо Шварн. Без вашай згоды на гэта адсюль я вас не выпушчу! Нават і не думайце спасылацца на нейкія пасольскія правы! Задушу, атручу і — апраўдаюся! — Махнуў рукою. — Ды хто ў Еўропе ці ў мангольскай Азіі заступіцца за вас! Вы засумленнічалі, выпусцілі жывым вашага ж здрадніка, нягодніка, якога я вам наўмысна аддаў, а я вось павядуся з вамі іначай! Знішчу і — усё! Нават, — ткнуў пальцам на Войшалка, — твой бацька не папомсціцца мне! Ён баіцца цябе і во гэтага зубра! Так што вашу сілу, а гэта значыць Навагародак я магу лёгка падкасіць тут!

— Верым, — ухмыльнуўся Войшалк. — Падсыпаць атруты, ударыць нажом у спіну — праўда, не цяжка! Вунь якая ў гэтым доблесць!

— Не блазнуй! — раззлаваўся Даніла. — Хопіць слоўных перапалак! Запытваю, як кажуць, у лоб: каго хочаце мець князем у Навагародку? Рамана? Шварна?

— Давай, князь-кароль, спачатку перамовімся пра тое, што раней раіў мой бацька, — вёў сваё Войшалк. — Якому сыну ты хочаш мець жонкай маю сястру?

— А вы з кім, — Даніла кіўнуў галавой на сыноў, — не супраць парадніцца?

— З абодвума. Мужа нашай Дануце выбірай сам.

— Давайце пажэнім Рамана і вашу Дануту, — памякчэў Даніла. — І Раман — князь у Навагародку.

Войшалк ухмыльнуўся, адмоўна закруціў галавою: хто ж згодзіцца на такое? Калі Раман ашлюбуецца з Данутай і будзе мець дзяцей, то яго нашчадкі будуць мець права валодаць Літвою — гэта значыць, Даніла даб'ецца мірна таго, чаго цяпер вымагаецца сілай.

— Мы добра ведаем твой смач, тваю прагу мець у сваіх руках Навагародак, — ужо сур'ёзна сказаў Войшалк. — І каб ты не падкошваў нас, не знясільваўся сам, мы можам пайсці на ўступку. Шлюбім Дануту з адным тваім сынам, але да нас на княжанне прыбудзе халасцяк. Мы іншую знойдзем яму жонку.

— Гэтага мне мала, — не задаволіўся Даніла.

— Наадварот. Гэта, кажу, вялікая наша ўступка. Праўда, агаворымся: твой сын княжыць у нас не як твой васал, а як васал майго бацькі!

— Уступка! — хмыкнуў Даніла. — Гэтым вы змушаеце мяне прызнаць, як вы любіце казаць, Навагародска-Літоўскую дзяржаву пад Міндоўгавым вяршэнствам!

— Нас прызнаў Рым, як нядаўна і цябе, — адказаў Войшалк. — І калі ты хочаш у яго даверу ды яшчэ для таго, каб сабраць еўрапейскую сілу супраць манголаў, стаць славутым, то запыні славянскую міжусобіцу!

— Інтрыгуеце на маім "каталіцтве"!

— Паколькі ты сам хітруеш, то і ведаеш: хітруе і мой бацька. Але нам трэба запыніць войны супраць адзін аднаго. Імі мы знясільваемся, яны — на карысць Заходняй Еўропы і Азіі.

— Ладна, — узмахам рукі перапыніў Войшалка Даніла. — Згодны: Дануту аддаяце за Шварна, яны будуць тут, Раман — навагародскі князь, Міндоўгаў васал. Гэта — ужо мая вялікая ўступка! Але гэтую маю ўступку мы падмацуем Раманавай бяспекаю...

— Які ты недаверлівы! — паматляў галавою Войшалк.

— Мяне вы не абведзяце вакол пальца! — патрос пальцам Даніла. — Добра спазнаў вашу хітрасць! Умееце спажыць спрыяльную часіну, замышляеце не малое! Я проста так не пашлю да вас свайго сына. Каб во ён, хітрун з хітруноў, — паказаў на Усяслава, — сам аберагаў майго нашчадка, я мушу запатрабаваць: няхай ён выкліча сюды сваіх сыноў. Мне ў закладнікі. Тады сам завязе Рамана ў Навагародак і пакажа яго Міндоўгу і навагародскаму люду. Будзе жыць Раман — будуць жыць і яго дзеці!..

Як і ў Навагародку, пачуўшы Любамiравы словы пра сваіх сыноў, зноў ва Усяслава зайшлася душа, а да галавы хлынула кроў — так, ажно пацямнела ўваччу. Якой цаною трэба здабываць волю! Жыццём сваіх дзяцей! Як такое вытрымаць самому, як такое сказаць такой адданай жонцы і маці, як Любка?! Яна ж пасля такога не толькі адчаіцца, але можа і ўзненавідзець яго, лічы, згубцу сваіх і яе крывінак!

— Што? Забалела сэрца? — пазларадн ічаў Даніла. — Як табе шкада сваіх чад, так і мне, дарагі, неабыякава маё чада! Дык будзем берагчы: я — тваіх, а ты — маё!

Вось дзе трэба з усёй моцай розуму, душы і пачуццяў ускліккнуць: бацькі, станьце на калені перад гэтым чалавекам і бацькам, які дзеля Дзедаўшчыны гатовы ахвяраваць сваімі дзецьмі! Найбольшага яго гора, найбольшага яму папроку няма, як і няма найбольшай ягонай славы, а гэта значыць і карысці для роднага люду!!!

— Я згодзен, — цяжка выдыхнуў Усяслаў, прадбачачы, колькі ляманту, слёз, справядлівых папрокаў выкліча ў яго горача любімай, самай дарагой Любкі гэтая ягоная самаахвярная згода, што ў любы — канечне ж, самы патрэбны для Навагародка час — можа выліцца ў самае страшнае іхняе сямейнае няшчасце. Ды трэба, трэба і, яшча раз варта паўтарыць, мусова ісці на такі, лічы, антычалавечы крок!

— Не, гэта яшчэ не ўсё, Усяславе! — пацяшаўся Даніла. — Не, гэта яшчэ не ўсё, даражэнькі Войшалачак! Сын мой будзе Міндогаў васал, але Міндоўг і ты, Войшалк, будзеце не ў Навагародку, а ў сваёй законнай Руце!!! І ён, — яшчэ раз ледзь не тыцкнуў пальцам ва Усяслава, — сваімі дружынамі, вернымі яму, які псы, даб'ецца гэтага! Я, паважаны мною ваяр, палкаводзец, даўно хацеў і хачу звесці цябе са свету, але ты зберажэш маё чада, падначаліш Холму свой любімы Навагародак!!!

Вялікі сорам, вялікая ганьба цярпець такое, але трэба! Дзеля сябе, жонкі, дзяцей, Навагародка і патомнага часу!!! Тут ужо ні да таго, каб думаць, ці хто калі-небудзь успомніць, узважыць твае асабістыя пакуты. А гэта змушае на іншы, канечне ж, брыдкі крок: лічы, выдаліць вернага Міндоўга з Навагародка, адкінуць яго ў Літву, дзе яго зноў будуць абкладаць, як ваўка. Усяслаў падняў вочы на Войшалка: якая твая думка, Міндоўгаў сын? Ці даруеш ты мне, калі я згаджуся ўнізіць, аслабіць твайго бацьку? Войшалк вытрымаў гэты цяжкі позірк і вачыма паказаў: не супраціўляйся, любы мой дзядзька-пястун, не пярэч гэтаму сатрапу, што дзеля сваёй задумы, мары, хцівасці гатовы пайсці і на самазнішчэнне!

— Даціскаеш ты нас, Даніла, — здаўся Усяслаў. — Але, прашу, не злуй наш люд да канца: Раман без нашай згоды не будзе мець права пачынаць войны ці браць удзел у тваіх авантурах! Толькі пасля твайго такога запэўнівання я даю слова зберагчы твайго сына, наш уступак табе!

— Даю такое слова, — ужо радасна ўсміхнуўся Даніла.

— Князь-кароль, зноў, але ўжо нечакана для Усяслава ўступіў у размову Войшалк, — я перавышаю свае паўнамоцтвы, іду супраць бацькі, але я асабіста хачу быць зарукай бяспекі твайго Рамана.

— Не зусім зразумеў, — пацепнуў плячыма Даніла.

— Ты добра ведаеш: ад першай жонкі ў майго бацькі я адзіны сын, — ужо не абмоўлена з Усяславам пачаў тлумачыць сваё, мабыць, глыбока запаветнае Войшалк. — Як добра ведаеш і іншае: я не вой, як мой бацька, як вось ён, баярын Усяслаў, як ты і як твае сыны. — Войшалк прамаўляў і бялеў усё больш і больш. — Я змалку прывучаны маёй любімай, самай найлепшай на свеце маці да глыбокай боскай веры, да павагі, любові, сардэчнасці да кожнага чалавека, хто б ён ні быў. Я даўно марыў пасвяціць сябе царкве, ды бацька мне гэта забараняў, заўсёды проста ўбіваў мне ў галаву: ты — адзіны мой сын, ты — княжыч, цябе любіць Навагародак, ты з ім узвысішся! Я, як і кожны сын, павінен слухацца свайго бацькі. Я і спаўняў яго волю. Але я тут, на тваёй зямлі, князь-кароль, упэўніўся: я не магу служыць звадам, хцівасці, мячу, я хачу служыць Богу! Таму прашу: недаверлівы да нас, варожы, але мудры ўладар, дазволь мне застацца тут, каб пайсці ў ваш манастыр, усяго сябе аддаць праваслаўнай веры, а пасля, калі ты дасі сваю высокую згоду, вярнуцца ў бацькавую Літву і ахрысціць яе ў праваслаўе. Я ж душой адчуваю: ты быў і ёсць праваслаўны чалавек!

Гэтыя Войшалкавы словы разгубілі як Данілу, так і Усяслава: ён, Войшалк, сам набіваецца ў Данілавага закладніка. Нават самы старэйшы Данілавіч, Леў, вырачыў вочы: што за самаахвярнасць? На такое можа рашыцца толькі вельмі моцная ці, наадварот, слабая асоба.

— Княжыч!... Войшаль!.. — Не мог і пры Данілавай свіце ўстрымацца Усяслаў. — Ты ідзеш супраць бацькі!

— Дарагі мой дзядзька-пястун, я скажу і пры князі-каралі Даніле: так трэба, — Войшалк горка ўсміхнуўся, паклаў сваю халодную руку на яго. — Пасля гэтага князь-кароль Даніла пачне нам больш верыць і я споўню сваю і матчыную даўнюю мару — ахрысціць Літву.

— Ну, княжыч! — нарэшце заззяў вясёлай усмешкай Даніла. — Ты змусіў мяне, бывалага, запаважаць цябе, па гадах майго сына, за мудрасць. На такі крок не кожны сам пойдзе.

— Я, князь-кароль, аддаюся Богу, — апусціў галаву Войшалк. — Ён, толькі Ён — для нас усіх дарадца і суддзя! А вы, Холм і Навагародак ды Літва, сустракайцеся не на полі бою, а за бясědным сталом!

Даніла зацягла паўзіраўся ў Войшалкавы вочы, а пасля ўражана паціснуў плячыма:

— Не ведаю, княжыч. Можа, я і дабіўся ад вас таго, чаго хацеў, але... За тое, што ты сам захацеў застацца тут, ты мне спадабаўся! Руку, дай руку, слаўны сын славутага бацькі!

Войшалк падняўся — таксама проста ўскінуты пружынаю Даніла моцна сціснуў слабую руку аднаго са сваіх сапернікаў, а пасля і аблапіў за плечукі:

— Саюзнікі?

— Саюзнікі, князь-кароль.

— Кажу ж, не ўспамінайце нават гэтага слова "кароль"! Мы — адно! Славяне! Праваслаўныя! Суседзі! Браты!

Затым гэтак жа ўсцешана Даніла абласкаў і Усяслава.

Калі позна ўжо вярталіся з багатай вячэры, дзе былі з Данілам, яго сынамі і баярамі, падпіты Усяслаў, застаўшыся сам-насам з Войшалкам у познюю зімнюю паўясную, з серабрыстым адлівам ноч, не мог не сказаць таго, што, як кажуць, увесь час ліпела на кончыку языка:

(Працяг на стар. 12)

АДГАЛОСКІ

НАДТА Ж СПАКУСЛІВЫМІ з'яўляюцца спробы зірнуць у будучыню. Бяздольныя хацелі б верыць, што яны пазбавяцца ад сваіх бедаў, багатыя — бачыць памножанымі свае набыткі, а цэлыя народы? Тым больш канкрэтна — беларусы? Спробу такую зрабіў Алесь Гібок-Гібкоўскі ў артыкуле "Куды ідзём мы... з Пятачком, або Некалькі шляхоў будучыні Беларусі" ("ЛіМ" ад 3 красавіка г.г.). Ён разглядае розныя варыянты магчымых пошукаў той будучыні для нашага народа — тут і нейкія перспектывы палітыкі сучаснага кіраўніцтва, і разважанні над ідэйнымі канцэпцыямі лідэраў БНФ ды і такіх людзей або грамадскіх сіл, якія ў перспектыве — і бліжэйшай, і далейшай — ніякага ўплыву на лёс Беларусі аказаць не здолеюць. Наогул жа я з уласнага вопыту і, магчыма, з вопыту

# Нашы прагнозы

свайго пакалення магу сцвярджаць, што ніхто і ніколі з тых, каго я знаў, не даваў рады прадбачыць рэальную будучыню. Хто ж гэта мог нейкіх 10 гадоў таму назад прадказаць той катаклізм, у выніку якога ў мірных умовах развалўся "союз нерушимый республик свободных", сцэментаваны такімі магутнымі структурамі, як партыя, органы дзяржаўнай бяспекі, надзейна падабраная адміністрацыя на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання, як манаполія на ўсе сродкі масавай інфармацыі? А тут усё развалілася, і Беларусь аказалася суверэннай дзяржавай.

Пры чытанні артыкула А. Гібка-Гібкоўскага нараджаюцца сустрэчныя пытанні або ўсплываюць свае ўласныя меркаванні. Некаторыя з іх і хацелася б закрануць.

На першым месцы аказваецца тут — зусім натуральна і апраўдана — праблема саюза Беларусі і Расіі або нават іх аб'яднання. А ці рэальная гэтая справа? Пакуль што тыя перагаворы і пагадненні, якія падпісваюцца, ператвараюцца ўсяго толькі ў дэкларацыі аб намерах, пазбаўленыя рэальнага сэнсу, але разлічаныя на знешні, прапагандысцкі эфект. Ёсць, праўда, людзі, якія робяць выгляд, быццам успрымаюць усё гэта зусім сур'ёзна. Прадстаўнікі ўлады, каб заваяваць сімпатыі значнай часткі насельніцтва Беларусі, на кожным кроку падрэсліваюць сваю нястомную дзейнасць на ніве інтэграцыі славянскіх народаў. Затое ж лідэр БНФ, надзейна схаваўшыся за мяжою, усімі сіламі ратуе нас ад смяротнай пагрозы крывавэрнага маскоўскага імперыялізму, які намагаецца праглынуць нашу даверлівую, але недастаткова дасведчаную Беларусь. Пры гэтым забываецца чамусьці, што не хто іншы, як той самы Ельцын адным ударам рассек вузел, які да таго часу непарушна — можна сказаць, жалезна — сціскаў славянскае ядро ўсяго саюза. І пакуль Ельцын сядзіць на крамлёўскім троне, ніякі рэальны аншлюс нам не пагражае.

Паспрабуем паразважаць і пра саюз і пра аб'яднанне. Як сказана ў багдановічаўскім "Апавяданні аб іконніку і залатару...", "Чалавек разумны да прыкладаў розных ахвотна звяртаецца, думку сваю выкладаючы..." Вось, скажам, вяроўку, якою абвязваюць воз сена — у нас яе прыцягай называлі, — паселі на некалькі кавалкаў. А потым рабілі выгляд, быццам гэтыя кавалкі сашткоўваюць, прыткнуўшы ці нават прыціснуўшы адзін да аднаго. (Такую самую працэдуру можна зрабіць было б і з Гордзіевым вузлом). І што атрымаецца з такога сашткоўвання? Нас, аднак, пераконваюць: "Мы ж прыціснулі кавалак да кавалка, два кавалкі зусім шчыльна аб'ядналі". Ну і паспрабуйце такой прыцягай абгарнуць воз сена. А нам кажуць: "Мы ўжо ў саюзе жывём".

Можа, тыя, што так робяць, не разумеюць таго, што адбываецца? Яны ж з такім сур'ёзным выглядам усё гэта дэманструюць? І нават цалуюцца пры гэтым. Але мы ўжо не першы раз становімся сведкамі палітычных спектакляў на найвышэйшым узроўні. Згадаем, як у 1993 г. так упэўнена набліжалася аб'яднанне беларускіх і рускіх грашовых сістэм, заклікане нас ашчасліваць. Усё ўжо было канчаткова ўзгоднена двума прэм'ерамі — Кебічам і Чарнамырдзіным. Шмат шуму было, у выніку чаго знаходзіліся людзі, якія змікіцілі, што ў сувязі з такім блізкім аб'яднаннем дзвюх нераўнацэнных грашовых сістэм нешта ўдасца нам, беларусам, падзарабіць. І калі ў каго-небудзь была замежная валюта, то выгадна было яе чым найхутчэй збыць, каб пасля аб'яднання купіць сабе значна большую колькасць долараў або марак. Такую магчымасць падказвалі і некаторыя газеты. Можна толькі сабе ўявіць, што рабілі людзі з асяроддзя Кебіча, якія загадзя ведалі, што тое так званае аб'яднанне — усяго толькі буйнамаштабная махлярская аперацыя, якая ажыццяўлялася на ўзроўні прэм'ераў. Адзін Бог ведае, колькі людзей такім хітрым чынам удалося абкебічыць.

А ўсё ж такі што нам свеціць? Справа саюза або аб'яднання — рэальная, ці гэта ўсяго толькі прывід, які мроіцца ў тумане? Мне чамусьці думаецца, што пакуль у прэзідэнцкім крэсле сядзіць Ельцын або калі б на змену яму прыйшоў нейкі Яўлінскі, то рэальны саюз не прадбачыцца, ка бы з-за гэтага ні перажывалі адны і ні цешыліся іншыя. Аднак эра Ельцына канчаецца, ён здзейсніў антысавецкі пераварот, але па новых законах палітычнай гульні ён вымушаны будзе неўзабаве пакінуць свой трон у Крамлі. А яшчэ ў Расіі адбудуцца парламенцкія выбары. І як гэта ні дзіўна, але лёс Беларусі будзе вырашацца на чарговых парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбарах у Расіі. Бо калі там да ўлады вернуцца камуністы, то на працягу вельмі кароткага часу Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка стане часткай і надзейнай апорай адноўленага (праўда, у вузейшых памерах) "союза республик свободных", занявшы там ганаровае месца. Пры гэтым я не надта здзіўлюся б, калі б нашы ды і не толькі нашы стратэгі прыдумалі варыянт, пры якім беларускі прэзідэнт прыняў бы ўдзел у расійскіх прэзідэнцкіх выбарах. Улічваючы яго элоквентнасць, г. зн. красамоўства, ён мог бы значна апярэдзіць розных канкурэнтаў і дасягнуць таго, чаго не даў бы рады, напрыклад, Зюганаў. Калі б рускія камуністы знайшлі спосаб пазбавіцца розных персанальных амбіцый і зрабіць сваім лідэрам нашага прэзідэнта ды яшчэ падабралі яму штаб мудрых саветнікаў, то іх шанцы ў значнай меры вырaслі б. У свой час палякі-каталікі бралі сабе ў каралі то нехрысця Уладзіслава Ягайлу, то француза Генрыха Валуа, то сямігадскага ваяводу Стэфана Баторыя, то прадстаўнікоў шведскай дынастыі Вазаў, то саксонскай дынастыі Веттынаў. На гэтую ж тэму вяліся гаворкі і з рускімі царамі, у тым ліку і з Іванам Грозным. То хіба ж больш складана рускім камуністам было б пазычыць сабе кіраўніка ў Беларусі? Але для рэальнага поспеху ўсё роўна трэба было б вельмі ж крытычна падысці да свайго палітычнага радаводу, а затым і паспавядацца перад народам.

А ўсё ж такі ці можа Бог дазволіць камуністам зноў вярнуцца да ўлады? Бо кажуць, што ўсякая ўлада ад Бога. Каб пашукаць адказ на пытанне, паспрабуем зірнуць па баках. Як бы гэта ні ўяўлялася нерэальным па самых розных прычынах, але ў суседняй Рэчыпаспалітай, небывала прававерны каталіцкі народ якое ніколі не грашыў празмернай любоўю да сацыялістычнай сістэмы, аднак у свабодных дэмакратычных выбарах неяк раней памяняў сваю родную "Салідарнасць" на колішніх камуністаў ды і прэзідэнтам абраў былога лідэра камуністаў Квасьнеўскага, адправіўшы ў адстаўку легендарнага, але неадукаванага і касалапага на язык Валэнсу. Ды і ў Літве ў свой час найбольш папулярным палітыкам аказаўся колішні кіраўнік камуністаў Бразаўскас. І прэзідэнтам выбралі яго, а не Ландсбергіса, найбольш непрымірымага праціўніка савецчыны і маскалёў. А народ літоўскі не такі ціхамірны, як беларускі, і абы-каму падпарадкоўвацца не захоча.

Калі браць наогул, то ў Расіі ўмовы для камуністаў павінны быць непараўнальна больш ласкавымі, чым у Польшчы або Літве. Нядаўна гаварылі па тэлебачанні з Масквы, што недзе там шахцёры аб'явілі галадоўку, бо ў красавіку гэтага года атрымалі зарплату толькі за май мінулага года. Што-што, а ўжо своечасовую выплату зарплаты камуністы могуць гарантаваць. А чаго варта ўся гісторыя з Чачнёй? Ды згадаем яшчэ такую небывала важную дзяржаўную праблему, як справа пахавання апошняга цара. Колькі тут было праяўлена клопату на найвышэйшым дзяржаўным узроўні, колькі мерапрыемстваў ажыццяўлялася, як плённа і самаахвярна працуюць урадавыя камісіі! Дзе тут будзеш думаць пра нейкую там своечасовую зарплату, калі тут такія важныя справы нахлынулі!

А калі быць шчырым, то вось дзе камуністам можна было б паказаць сваю вынаходлівасць і прынцыповасць. Яны чамусьці прапускаюць "пенкную аказію" дамагацца найбольш урачыстага абвяшчэння цара Мікалая II святым-найсвяцейшым усёй зямлі Вялікарускай — і гэта за небывалыя заслугі перад справай сацыялізму і перад нацыянальна-вызваленчым рухам. Бо хіба ж хто-небудзь дасць рады аспрэчваць, што калі б ён не ўцягнуў Расію ў першую сусветную вайну, то ці адбылася б Лютаўская рэвалюцыя, а ўслед за ёю і Кастрычніцкая? І ці вызваліліся б канчаткова Фінляндыя, Эстонія, Латвія, Літва і, вядома, Польшча? І ці нарадзілася б савецкая ўлада на шостай частцы планеты? Колькі помнікаў за ўсё гэта трэба было б паставіць! Але чамусьці дзяржаўныя камісіі, губернатары ды і камуністы маўчаць пра гэтыя заслугі. Дык дзе ж тут справядлівасць?

Калі ўжо гаварыць сур'ёзна, то ў камуністаў рэальных шанцаў не будзе, пакуль яны дакладна не прааналізуюць і не пакажуць грамадству тыя прычыны, якія прывялі да краху іх сістэму. Бо калі б яны праявілі мужнасць і асудзілі ўсе злачынствы бальшавіцкага кіраўніцтва (прыкладам тут мог бы паслужыць XX з'езд КПСС), то маглі б змяніцца адносіны да іх і творчай інтэлігенцыі і тэлебачання, і радыё, і наогул грамадскасці. Тут трэба было б зрабіць шмат балючых прызнанняў і пра калектывізацыю, і пра лагеры здзеку і смерці, і пра тое, якой цаной на працягу ўсіх гадоў рыўся дол для капіталу ды і як прыцісканіся найэлементарнейшыя правы грамадзян у паўсядзённым жыцці.

Для чаго нашай былой краіне трэба было выкідваць штогод многія мільярды долараў на вецер? Ідэя сусветнага бальшавіцкага панавання з'явілася адной з прычын краху сацыялістычнай сістэмы. Бо велізарнейшыя рэсурсы шостай часткі ішлі не на павышэнне дабрабыту народа, а на розныя авантуры ў Азіі, Афрыцы, Лацінскай Амерыцы ды на ваенныя базы ў Еўропе, а потым на вайну ў Афганістане. Між тым нашы гора-палітыкі яшчэ і сёння ўяўляюць, быццам там савецкія салдаты выконвалі свой інтэрнацыянальны доўг і таму называюцца воінамі-інтэрнацыяналістамі. Вось якое абсурднае ўяўленне ўкаранілася ў мазгі некаторых дзеячаў.

Як бы там ні было, але за гістарычным парогам аказалася тая дактрына, ад якой так лёгка пазбавіліся ды адхрысціліся некаторыя колішнія правадыры нашага роднага пралетарыяту накшталт Якаўлева, Шэварднадзе, Аліева або галоўнага чырвонаармейскага палітрука Валкагонава. А чаго вартымі без улады аказаліся такія колішнія лідэры, як Лігачоў, Рыжкоў, Лук'янаў? А ці ачысціўся Зюганаў ад усіх тых хвароб, якія пагубілі сацыялістычную сістэму? Не будзем забываць, што ў XIX і пачатку XX ст. іменна з сацыялізмам нашы продкі звязвалі свае светлыя надзеі на выратаванне чалавецтва, на ўсталяванне найбольш справядлівага грамадскага сацыяльнага ладу. Ды і савецкі лад шмат чаго даў людзям: права на працу і адпачынак, права на адукацыю і ахову здароўя, на танны праезд у гарадскім транспарце, на танную кніжку... Ды хіба ж можна ўсё пералічыць?

А чаго можна чакаць ад БНФ? Калісьці можна было чакаць ад аб'яднання сур'ёзных здзяйсненняў. Аднак лідэр фронту неаднаразова бліскуча даказваў, што ён зусім не разумее беларускіх рэалій — перш за ўсё ўплыву рускіх культурных і моўных традыцый, прытым не толькі ў асяроддзі людзей, якія прыбылі сюды з усходу і тут знайшлі сабе надзейнае прыстанішча і найбольш спрыяльную ва ўсіх адносінах атмасферу. Але і ў асяроддзі карэнных жыхароў зямлі, многіх "тутэйшых". Вядома, беларус сёння мог бы паўтарыць ясенінскае "в своей стране я словно иностранец". Аднак любыя спробы супрацьпастаўляць гэтаму становішчу адкрытую русафобію, нянавісць да ўсяго рускага могуць мець толькі сумныя вынікі і закончыцца безнадзейным правалам. Тут не Эстонія і не Латвія, і рускія тут адчуваюць сябе лепш, чым беларусы ў Расіі. Бо і беларусы ў Расіі, і рускія ў Беларусі аднолькава карыстаюцца рускай мовай. Іншай мовы і наш прэзідэнт не прызнае, адкрыта, усенародна парушаючы законы аб роўных правах дзвюх дзяржаўных моў. А па прыкладзе прэзідэнта і ўсё кіраўніцтва дзяржавы. Стварaецца ўражанне, што камусьці законы не пісаны.

Наогул жа калі разглядаць нашу будучыню, то трэба мець на ўвазе не толькі магчымыя варыянты палітычнага жыцця, але таксама і моўную сітуацыю і справу развіцця нацыянальнай культуры. Бо на нашым хітрым свеце ўсё ўзаемазвязана і ўзаемаабумоўлена.

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

УГОДКІ

# Бярозка на літаратурным узлессі

## ЛЕАНІДУ ЯКУБОВІЧУ СПОЎНІЛАСЯ Б 50...

Паэт і салігорскі шахцёр Леанід Якубовіч тым ранкам 1970 года, як заўсёды, спяшаўся на работу. Першая змена, у якой ён працаваў, пачыналася ў шэсць гадзін раніцы. У шахту спускаўся адзін. І тут здарылася непрадбачанае — трос абарваўся. 8 чэрвеня 1970 года стала апошнім днём жыцця дваццацідвухгадовага юнака.

*Нараджаемся не для смерці,*
*Нараджаемся мы, каб жыць,*
*Ды страла нацэлена ў сэрца,*
*Праз якуі ўжо страла ляціць.*

Кніжка Л. Якубовіча — пажоўцёвая і адзіная — "Я з вамі, вёсны...", рупна складзеная сябрамі паэта, у выдавецтве "Юнацтва" выйшла ў 1979 годзе. Гэта яго вершы і вершы прысвечаныя яму, гэта — успаміны пра яго... Са старонак зборніка Л. Якубовіч паўстае летуценна-засяроджаным юнаком, які спяшаўся жыць (і хацеў, зразумела, жыць), які пісаў вершы і любіў паэзію. Асобныя з іх, канечне, падаюцца ў чымсьці дэкларацыйнымі, у некаторых няма той адшліфаванасці радка, што прыходзіць з гадамі. Але яны — часцінка нашай паэзіі, паэзіі канца 60-х гадоў. Іншыя, з кім Л. Якубовіч пачынаў, пайшлі далёка наперад, ён жа назаўсёды застаўся ў "сваіх вёснах".

Леаніду Якубовічу больш удаваліся радкі пяшчотна-пранікнёныя, сонечна-прасветленыя, бо ён быў лірыкам па складзе характару і таленту. Запамінаюцца тыя вобразы, што нарадажаны нязмушана, быццам падгледжаны ў самім жыцці. Як у вершы "Бліскавіцы грознай навальніцы...":

*Травы захлынаюцца ад росаў —*
*Помачы няма адкуль чакаць,*
*Ці то дождж, ці то дзяўчыны косы, —*
*Сцежкі пад нагамі не відаць.*

Традыцыйнасць матываў не адмаўляла свежасці паэтычнага ўспрымання рэчаіснасці, калі аўтар умеў быць назіральным, дапытлівым і адначасова крыху па-дзіцячы наіўным. Наіўным у добрым сэнсе слова — значыць, больш адкрытым, непасрэдным, а тым часам і даверлівым. Як у гэтым вершы:

*Ну і раніца — уся з'інелая!*
*Па калені загрузла ў снег*
*І застыла снягуркаю белаю*
*У чароўным і дзіўным сне.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Спі ж, снягурка — белая раніца,*
*У цяпле маладых снягоў...*
*Мне так хораша, добра марыцца*
*На руках тваіх дзіўных сноў.*

У кніжцы "Я з вамі, вёсны..." — партрэт паэта. Летуценна-засяроджаны. Але чым больш узіраешся, тым больш заўважаеш у гэтай летуценнай засяроджанасці нейкую не надта прыхаваную павалоку тугі. Быццам чуеш голас самога Л. Якубовіча: "Я з вамі, вёсны, вам я свой!"

Яго паэзіі доўга квітнець маладзенькай бярозкай на літаратурным узлессі.

**А. М.**

## Даследаваў і наш фальклор

Аляксей Грузінскі, з дня нараджэння якога споўнілася 140 гадоў (памёр 22 студзеня 1930 года), найбольш вядомы як рускі літаратуразнаўца. Аднак пачаткам яго навуковай дзейнасці стала даследаванне этнаграфічнай творчасці. Вывучаў Аляксей Яўгенавіч і беларускі фальклор, этнаграфію. Прынамсі, у артыкуле "З этнаграфічных назіранняў у Рэчыцкім павеце Мінскай губерні" (1891) расказваў пра побыт сляпых старцаў-жабракоў з Лоеўшчыны, якія жылі за кошт таго, што выконвалі духоўныя вершы і псалмы ў суправаджэнні колавай ліры, ператварыўшы гэты занятак у прафесійны. У артыкуле багаты пазнавальны матэрыял. Паведамляецца пра рэпертуар спевакоў, апісваецца сама ліра, звяртаецца ўвага на адметнасць яе канструкцыі. Цікавы і артыкул А. Грузінскага "Духоўныя вершы. Мінская губерня, Рэчыцкі павет" (1898), у якім падрабязна гаворыцца пра асаблівасці гэтага жанру вусна-паэтычнай творчасці. А ў 1901 годзе А. Грузінскі апублікаваў артыкул "П. В. Шэйн", расказаўшы пра вядомага беларускага этнографа і фалькларыста.

## У імя беларускасці

У Глыбокім... глыбока закраналіся праблемы развіцця сучаснай беларускай літаратуры, творчасці асобных пісьменнікаў. А адбывалася гэта ў мясцовай сярэдняй школе N 3. Яно і не дзіўна, што гаворка прайшла так шчыра, зацікаўлена і адразу была скіравана на адраджэнскі лад. Дырэктар школы, а ў ёй, дарэчы, навучаецца 1500 вучняў, Віталь Гарановіч — сам паэт, нядаўна прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў, вельмі шмат робіць у імя беларускасці. А да ўсяго на сустрэчу былі запрошаны вядомыя пісьменнікі — Генрых Далідовіч і Мікола Мятліцкі, а таксама мясцовыя літаратары Алесь Жыгуноў, Тамаш Ляшонак, Уладзімір Сауліч, чыя творчасць вядома за межамі Глыбокага.

Н. К.

## Золата — пароўну!

У красавіку ў Беларускі універсітэт культуры прыйшла хвалюючая і радасная вестка ад прэзідэнта Беларускага фонду па аказанні дапамогі спартсменам-інвалідам, заслужанага трэнера Рэспублікі Беларусь В. Каламійца. Упершыню ў гісторыі спартыўных танцаў на інвалідных калясках і чэмпіянату свету, які праходзіў 27 лютага 1998 г. у Японіі, чэмпіёнамі свету сталі студэнтка IV курса Беларускага універсітэта культуры Вольга Цяцёркіна і інвалід I групы Барыс Бачкоўскі. У працяг поспеху — залатыя медалі заваявалі на кубку свету (12 красавіка 1998 г.) па спартыўных танцах на інвалідных калясках у Галандыі студэнт III курса Беларускага універсітэта культуры Раман Красько і студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка інвалід I групы Ганна Жукава.

Л. ДОЎНАР

## Быць новаму прыходу

У сталіцы ствараецца новы царкоўны прыход, дзе рабочымі будуць мовы царкоўнаславянская і беларуская. Дзеля гэтага ў Мінскім епархіяльным упраўленні пры старшынстве Мітрапаліта Філарэта адбыўся ўстаноўчы сход. У ім удзельнічалі як актывісты Брацтва трох віленскіх мучанікаў, так і праваслаўная моладзь. Стаць прыхаджанамі новага прыходу пажадала звыш сарака чалавек (дарэчы, згодна правілу, хапіла б і 10 заяў); сярод іх — урачы, архітэктары, будаўнікі, пісьменнікі, мастакі, студэнты. На сходзе выбраны савет і яго старшыня. Абмяркоўвалася месца будучай царквы Усіх Святых зямлі беларускай, хаця галоўнае слова ў гэтым пытанні, безумоўна, належыць гарадскім уладам.

У хуткім часе, пасля афіцыйнага дазволу на ўзвядзенне храма, паўстане праблема фінансавых сродкаў. Крыніцай фінансавання могуць стаць дзяржаўныя і недзяржаўныя прадпрыемствы, дабрачынныя фонды, фізічныя асобы. Укласці грошы ў царкву — справа, вядома ж, высакародная...

Г. З.

## XII З'ЕЗД САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

# Мастак служыць праўдзе і ісціне

(Працяг. Пачатак на стар. 5—7)

творчых, юбілейных, мемарыяльных... І што — хіба ўсё гэта пад корань? Ці не таму богу Дом літаратара маліўся?.. Ды толькі згаданыя імёны класікаў нашай літаратуры сведчаць і заклікаюць: Дом літаратара павінен жыць і дзейнічаць!

Напэўна ж, усе мы ўсведамляем, што і сённяшняе, і будучае літаратуры вызначаецца і здзяйсняецца не ў гэтых сценах, а ў сэрцах і думах мастака, творыцца за рабочым сталом. І дзякаваць богу, творчы настрой не здрадзіў, здаецца, нашым пісьменнікам. А самае важнае — нягледзячы на ўсе нягоды і перашкоды, на заклікі некаторых гарачых галоў — "зруйнаваць стэрэатыпы" — заставаліся вернымі прыродзе свайго таленту, сваёй творчай асабістасці.

Захаваць непаўторнасць свайго творчага аблічча пад шалёным націскам абставін, не ператварыцца ў літфлюгер, а ўгрунтоўваць заваяваныя пазіцыі, каб рухацца далей, — гэта добрая прыкмета любой сур'ёзнай літаратуры, у тым ліку і нашай, беларускай. Яна знае сабе цану, і ёй няма патрэбы шарахацца — куды кан'юнктурны вецер павее.

На зломе часу застацца самім сабой — гэта таксама творчая перамога.

Трагічныя пласты, характары і сітуацыі па-ранейшаму з аналітычнай глыбінёй і вастрынёй адкрывае Васіль Быкаў — асабліва ў нядаўна наглуха закрытых куточках нашай гісторыі. Не перастае радаваць пранямі сваіх лірычных мініяцюр — мудрых і жыццёва дасціпных — Янка Брыль. Дарэчы, ён тут не толькі самасцвердзіўся, але — мы сведкі гэтага — з'явіўся ў сучасным літаратурным руху неаспрэчным родапачынальнікам. Увачавідкі ствараецца літаратурная школа, а разам з ёй — літаратурны жанр. Паглядзіце, як дружна ідуць у друк з творамі гэтага кшталту Леанід Галубовіч і Вячаслаў Адамчык, Лідзія Арабей і Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Ліпскі — і вось зусім нядаўна падаў голас Мікола Гіль... Гэты метад спавядальнага роздуму вывеў Віктара Казько на прасторы аповесці — "Да сустрэчы..."; у тым жа шэрагу і "Сны пра маму..." Алеся Жука, і гістарычныя эсэ Уладзіміра Арлова...

Служыць тэме злабадзённай, як бы працуючы па "хуткай дапамозе" Іван Шамякін. Іван Навуменка, побач з прозай, не здраджвае сваёй другой музе: даследаванні жыцця і творчасці Купалы і Коласа маюць працяг — творчыя партрэты Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі... Застаецца майстрам важкай і па-мастацку дакладнай дэталі Іван Пташнікаў, — прыгадаем яго "чарнобыльскіх" "Ільвоў"... Бытавая шматфарбнасць зайздросна вылучае апавяданні Анатоля Кудраўца, — і вось толькі што: "Баек" у "Полымі"...

Тое ж самае і ў паэзіі: Ніл Гілевіч — гэта грамадзянскі боль, палымянасць; Анатоль Вярцінскі — асацыятыўныя, роднасныя афарыстычны, паралелі; Алесь Разанаў — заглыбленыя формулы быцця, схільныя іншы раз да філасофскага шыфру...

Яшчэ адна сімптаматычная тэндэнцыя: да чытача прыходзяць не наспех скіданыя зборнікі, а цэласныя, прасякнутыя адзінствам задумы, кнігі: "Евангелле ад Мамы" Рыгора Барадуліна, "Прошча" Уладзіміра Някляева, "Бабчын" Міколы Мятліцкага, "Хаос" Георгія Марчука, кніга апавяданняў пра жаночую долю-нядолю Генрыха Далідовіча; і як тут не ўспомніць першапраходцу з *нашага пакалення, які таленавіта выходзіў* да такой кнігі і ў паэзіі, і потым у прозе, — Янку Сіпакова...

У адной са сваіх новых мініяцюр Янка Брыль заўважыў: "Ад кожнага літаратурнага пакалення патрабуецца новае, — і дадаў: — за любую цану"... Заўважце: "За любую цану" — г. зн. гранічным намаганнем духоўных, творчых чалавечых сіл, а не "Любой цаной" — што значыць: усе сродкі добрыя...

Не першы раз ужо назначалася цана: адмаўленне папярэднікаў. Спакусіўся гэтай "цаною" і Сяргей Дубавец ("Ружовы туман" у "ЛіМе"). Таленавіты крытык, публіцыст, а вось жа так беспадстаўна заносіць яго...

Імкненне ўзвесці ў "закон пастаянства", "замацаванага" на генетычным узроўні, метаду "сацыялістычнага рэалізму" сапраўды нагадвае ў сваёй аснове часы "лысенкаўшчыны". Розніца толькі ў тым, што Лысенка,



*Алесь Разанаў і Аляксандр Станюта.*

Фота А. ПРУПАСА

змагаючыся з класічнай генетыкай, адмаўляў генны механізм захавання і перадачы спадчыннасці: толькі знешнія ўмовы існавання, сцвярджаў ён, ствараюць новы від і замацоўваюць яго спадчынна, — а Сяргей Дубавец ужо з пазіцый генетыкі даводзіць, што метад "сацыялістычнага рэалізму" замацаваўся ў нашых літаратараў (маецца на ўвазе старэйшае пакаленне) на генным узроўні — і тым самым лічыць яго, ну, скажам так, прапашчым і акамянелым... Такая вось "літаратуразнаўчая" "лысенкаўшчына наадварот", ці бальшавізм у літперабудове... Спроба вырваць літаратуру з гістарычнага кантэксту, антыгістарызм... А да таго ж яшчэ — і таптанне на магілах... Пад адмоўным знакам — Куляшоў, Танк, Панчанка... Паставім шматкроп'е і працытуем: "Панчанка як паэтычны характар надзвычай гарманічны і цэльны... здаўна і надоўга яго цікавяць "ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці"... Балявы парог паэтычнай натуры Пімена Панчанкі надзвычай нізкі, а яго ная здольнасць да сuперажывання ўсяму сапраўды чалавечаму зайздросна абвостраная нават як для паэта"...

Вы, канешне, не падумалі, што гэтыя словы належаць Дубаўцу? І правільна зрабілі. Гэтак сказаў пра Панчанку Васіль Быкаў... А Васіль Уладзіміравіч, па нашай агульнай згодзе з Дубаўцом, не ў "ружовым тумане", ён ведае, што гаворыць...

Я так падрабязна мушу спыніцца на гэтай, здавалася б, прыватнай, публікацыі, бо гэта момант не прыватны, гэта прапанаваецца тэндэнцыя ацэнкі нашай спадчыны. І тут па-бальшавіцку размахваць шабляй не выпадае...

Адмаўленне папярэднікаў — не лепшы спосаб, а скажам так: бесперспектыўны — сцвердзіцца ў літаратуры. Шлях тут адзін — і беспамылковы: асабістая творчасць кожнага. Назаву, не дзеля прыкладу, а "назідания ради" двух-трох самых непрыкметных (у сэнсе паставы і мітуслівасці): Юрась Свірка, Віктар Гардзей, (пачытайце яго томік выбранага "Зялёныя дажджы"), Мар'ян Дукса, Фелікс Баторын, Андрэй Федарэнка, Алесь Чобат... Нават Анатоль Сыс знаходзіць у іншых — паэтаў-сучаснікаў — анталагічныя вершы для "Звязды", дзе вядзе адпаведную рубрыку...

Я мог бы больш дэталёва спыніцца на аналізе творчасці толькі што згаданых сябрoў, але абмяжуюся адно чытацкім сцвярджаннем — па іх апошніх публікацыях. Гэтак жа як і акрэсленнем, што названыя зараз і раней імёны, напэўна ж, не вычэрпваюць увесь спектр творчых індывідуальнасцей — проста яны найбольш скандэнсавана выяўляюць пэўную тэндэнцыю.

Гавару гэта з перакананнем, што ў кожнага, каму бог шапнуў узяцца за пяро, ёсць свая залацінка — хай сабе верш, апавяданне, — а гэта ўжо так нямала. Лічы, пяцьсот пегасаў, — і кожны са сваім норавам... Няхай не ўсе аднолькава высока ўзлятаюць, але нораў ёсць!..

Мне хацелася толькі падкрэсліць: кожны мае плён, хто не здраджвае прыродзе свайго таленту — без усякай "генетычнай" закамплексаванасці.

І ўцешна, што такімі вольнымі, не зашоранымі, адкрытымі жыццю ідуць у літаратуру самыя маладыя, зусім юныя, якія гуртуюцца, напрыклад, пад крылом "Першацвету" і Алеся Масарэнкі...

Ні адна літаратура не можа паўнакроўна развівацца ў ізаляваным стане. Творчыя кантакты патрэбны мастаку, як паветра. Прасцей было, калі нашы ўзаемасувязі ішлі ў гатовым рэчышчы дзяржаўных структур. Быў СССР, быў Саюз пісьменнікаў СССР, — сістэма была адладжаная...

Цяпер трэба як бы ўзнаўляць, у новых умовах усталёўваць спосабы і шляхі творчага супрацоўніцтва. Справа нялёгкая — і перш за ўсё з-за фінансавых праблем.

Што найперш вызначае літаратурныя ўзаемасувязі? Гэта — узаемапераклады і ўзаемавыданні. Тут якраз усё, ці амаль усё, і затармазілася. Падпісваюцца пагадненні ці пратаколы аб намерах па супрацоўніцтве, а далей справа не ідзе.

Гэта ў поўнай меры тычыцца і нашых дзелавых кантактаў з расійскімі літаратурнымі коламі. Былі такія прапановы — і неадночы: фінансуйце пэўнае выданне, а мы будзем перакладаць і выдаваць... Сітуацыя ўскладняецца яшчэ і тым, што ў Маскве не адзін Саюз, а некалькі — галоўныя два: Саюз пісьменнікаў Расійскай Федэрацыі і Саюз расійскіх пісьменнікаў. І кожны адразу крыўдзе, калі ўступаеш у кантакты з саюзам альтэрнатыўным. А гэта тут жа адгукаецца цэнтрабежнымі тэндэнцыямі ў нашай арганізацыі. І таму нам неадназова даводзілася тлумачыць: мы адкрыты для творчага супрацоўніцтва з усімі, — тым больш што і ў адным расійскім саюзе і ў другім ёсць нашы сябры, перакладчыкі, вядомыя пісьменнікі.

Гэта ж тычыцца і міжнародных пісьменніцкіх аб'яднанняў на абсягах былога СССР. На апошнім, ліквідацыйным, будзем так называць, пісьменніцкім з'ездзе, ужо ва ўмовах СНД, перад нашым, беларускім, Саюзам пісьменнікаў, як і перад іншымі былымі рэспубліканскімі Саюзамі, стаяла пытанне аб уступленні ў Міжнароднае **Сообщество** писательских Союзов, — назву дадзім па-руску для дакладнасці, бо к гэтаму часу ўжо было ўтворана Міжнароднае **Содружество** союзов писателей, — яно таксама заклікала пад свае штандары. Наша дэлегацыя прыняла тады рашэнне ўстрымацца ад арганізацыйнага ўваходжання ў Сообщество (як і ў Содружество таксама), каб вырашыць гэтае пытанне, параіўшыся ў сваім творчым калектыве. Як помніце, наш агульны пісьменніцкі сход падтрымаў пазіцыю дэлегацыі — з той жа самай насцярогай ад расколу нашага Саюза і з гатоўнасцю творча супрацоўнічаць з літаратурнымі

арганізацыямі, як у Расіі, так і ў іншых краінах блізкага і далёкага замежжа. Быў бы плён, апроч агульных дэкларацый... Адпаведныя дамовы заключаны ў нас з Саюзамі пісьменнікаў Польшчы, Балгарыі, Латвіі, Літвы, зусім нядаўна — з Саюзам пісьменнікаў Расіі (з боку апошняга была праланова "обсудить возможность создания единого Союза писателей России и Белоруссии" — праўда, няясна было: хто ў чый саюз уступаць будзе; сышліся на дамоўленасці аб творчым супрацоўніцтве).

Двухбаковыя кантакты апошняга часу даюць першыя абнадзейваючыя парасткі. Так, нашы балгарскія сябры прысвяцілі цалкам нумар альманаха "Панарама" беларускай літаратуры, а ў адказ наш часопіс "Полымя" даў добрую творчую панараму сучаснай балгарскай літаратуры. Адбыліся дні беларускай літаратуры ў Балгарыі і дні балгарскай — у нас, у Беларусі. Балгарскімі сябрамі рыхтуецца анталогія беларускай паэзіі. Тут трэба добрае слова ўдзячнасці за падтрымку сказаць Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу Рэспублікі Беларусь у Балгарыі Аляксандру Міхайлавічу Герасіменку, а таксама беларускаму Таварыству дружбы з замежнымі краінамі. Наогул, у Саюза пісьменнікаў Беларусі з Таварыствам наладзіліся вельмі добрыя кантакты, праводзяцца сумесныя літаратурныя вечары, сустрэчы, прэзентацыі кніг. У актыве Таварыства нямала нашых пісьменнікаў — Васіль Быкаў, Анатоль Вярцінскі, Раіса Баравікова, Сяргей Панізнік і многія іншыя. Таму і супрацоўніцтва плённае.

Добрыя весткі ёсць і з кнігавыдавецкай нівы. У Германіі, Польшчы, Балгарыі чытачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з новымі творамі Алеся Разанава, Святланы Алексіевіч, Галіны Тварановіч, Сяргея Законнікава. Літоўскія сябры выдалі "Крыж міласэрнасці" Валянціны Коўтун, — прэзентацыя кнігі адбылася ў Вільні і Мінску, з удзелам як літоўскіх, так і беларускіх пісьменнікаў. У перакладзе на сербскую мову стараннямі Івана Чароты выдадзена анталогія беларускай паэзіі. Сяргей Законнікаў атрымаў Міжнародную літаратурную прэмію ў Польшчы і ў Украіне — прэмію Р. Скаварады — за паэтычную і перакладчыцкую працу.

Даўняе наша непаразуменне — арганізацыйнае вызначэнне Літаратурнага фонду. Калісьці гэта было Беларускае аддзяленне Літфонду СССР. Тады было цэнтралізаванае фінансавае жыўленне: на пуцёўкі, дамы творчасці, на кватэры, — а сродкі складаліся ў асноўным з размеркаваных прыбыткаў выдавецтва "Советский писатель", "Литературной газеты", плюс (калі мець на ўвазе Беларускае аддзяленне) адлічэнні рэспубліканскіх выдавецтваў ад выдання кніг мастацкай літаратуры. Пасля, па вядомых усім прычынах, на самастойнае, незалежнае гаспадарчае існаванне перайшла "Литгазета", гэтак жа — і "Советский писатель" — з новым пашпартам на імя "Современный писатель" (гэта ён слаў пісьмы ў рэспубліку: плаціце грошы — а мы выдаваць будзем...); беларускія выдавецтвы на падставе законаў аб прадпрыемствах і падатках, заявілі: мы плацім дзяржаўны падатак, і якія яшчэ незразумелыя "працэнты" павінны адлічваць нейкаму "Літфонду"?.. Так былы пісьменніцкі забеспячэнец і апякун сам застаўся без граша ў кішэні... У гэтым незайздросным становішчы ён знаходзіцца і сёння.

Фактычна асноўныя функцыі матэрыяльнай дапамогі пісьменнікам і іх сем'ям апошнім часам узяў на сябе Саюз пісьменнікаў.

Сродкі выкарыстоўваліся з рэштkaў, якія заставаліся ад арэнднай платы пасля закрыцця ўсіх функцыянальных выдаткаў Дома літаратара.

У меру магчымага аказвалася фінансавая дапамога на будаўніцтва ці выкуп кватэр, — Валянціне Аколавай, Уладзіміру Арлову. Апошні, наогул, трапіў быў у складаную сітуацыю, разам з іншымі пісьменнікамі, якім Літфонд замовіў кватэры ў гарвыканкаме, але не маючы сродкаў, сабраў іх з самых "кватэраздабытчыкаў". А пакуль кватэры будаваліся ды даваліся, іх кошт падскочыў невымерна. І пісьменнікі нашы засталіся ні з чым, і грошы ім вярталі, але ў тых жа, ранейшых "знаках". Пацярпелыя справядліва патрабавалі кампенсацыі, Літфонд ухіляўся, як мог... Справа да суда даходзіла... Тады Саюз пісьменнікаў, па ўзаемнай дамоўленасці, і дапамог пацярпелым хоць у нейкай ступені перакрыць іх страты...

Арлоў жа "выпаў і са спісаў", калі даваліся кватэры ў доме для творчай інтэлігенцыі: нешта каля І кв. м. лішняга было ў яго: двухпакаёўка на чатыры душы, — два члены Саюза пісьменнікаў — і такая "бухгалтэрыя"... Прытым пра дадатковую плошчу для творчай працы і гаворкі не было. Праўда, праблему колькі месяцаў таму Уладзімір Арлоў і Валянціна Аксак усё ж вырашылі...

Дапамагаць у такіх сітуацыях, ясна ж, патрэбна.

І Саюз дапамагаў. Як дапамагаў матэрыяльна і ветэранам, і хворым — на лекі, і ўдовам, і проста таварышам, якія траплялі ў тую ці іншую бяду. Як тут не дапамагчы?

Вось учора літаральна па просьбе Брэсцкага аддзялення СП бухгалтэрыя афарміла дапамогу Святлане Курылёвай — 70 год, хворая, — невялікія грошы, але ўвага, можа, даражэйшая.

Спісы гэтыя доўгія...

Ну і самае сумнае — апошняе развітанне з сябрам, з паплечнікам па творчай працы. Усе выдаткі на пахаванне Саюз пісьменнікаў браў на сябе, — а гэта зараз — мільёны і мільёны...

Дом творчасці "Іслач" (як і ўсе дамы творчасці наогул — раней і цяпер) таксама не можа абысціся пакуль што без датацый. Саюз пісьменнікаў выкройваў пэўную падтрымку і "Іслачы": з арэндных сродкаў кампенсаваў кошт пуцёвак, выдзяляў грошы на паліва...

Зараз і гэтага няма... Арэндныя сродкі пайшлі на іншы рахунак...

Як быць далей? Трэба шукаць выйсце... У вырашэнні сацыяльных пытанняў Саюзу пісьменнікаў і Літфонду патрэбна адзіная структура, адзінае кіраўніцтва.

Справа ж ускладняецца тым, што беларускі Літфонд мае статус самастойнай арганізацыі, незалежны ад Саюза пісьменнікаў і замацаваны адпаведнымі актамі Мінюста... Помніце быў сход: я выступаў супраць "адлучэння" Літфонду ад СП, аднак адбылося тое, што адбылося: людзі адны і тыя ж, а арганізацыі — розныя...

Пэўна, ёсць сэнс нам вярнуцца да пытання і прывесці Літфонд у падначаленасць Саюзу пісьменнікаў. Хай застаецца ён, як і раней, юрыдычнай асобай, але ў статут яго і Саюза пісьменнікаў трэба ўнесці адпаведныя ўдакладненні. Пытанне, аднак, павінна быць вырашана, хай сабе і фармальна, асобным сходам — сходам членаў Літфонду.

Такая арганізацыйная карэкціроўка дапаможа спрасціць, зробіць аператыўнай дзейнасць творчага Саюзе ў сферы сацыяльна-эканамічных праблем, — і выдаткаў у тым ліку... Без гэтага падпарадкавання Літфонд успрымаецца паўсюль як нейкае камерцыйная структура... І, сама меней, патанае ў беззлічы фондаў, якія адкрываюцца і множацца амаль па метастазнаму прынцыпу...

...Ці бачылі вы тэлевізійныя кадры аб разгоне амапаўцамі студэнцкай дэманстрацыі ў Екацярынбургзе (Свярдлоўску), дзе восем дзесяткаў гадоў таму было ўчынена д'ябальскае забойства? Дык вось — д'ябал зноў загрукаў там капытамі... Не-не, гэта не толькі тыя, раз'юшаныя, са шчытамі — гэтымі д'ябальскімі крыламі, і дубінкамі — гэтымі д'ябальскімі скіпетрамі, — яны ўсяго толькі выканаўцы волі д'ябла...

А ён — вы помніце? — з шалёным, скрыўленым тварам, штосьці істэрычна выкрыкваў сваім падначаленым, гэтым шчытападобным пачварам, што ў нейкай нечалавечай лютасці накідваліся з дубінкамі на юных, безабаронных студэнтачак і студэнцікаў... Думалася, што той, галоўны, дае каманду, каб спыніліся гэтыя наскокі. А як выявілася, гэта ён "выраўніваў" шэрагі... Быў незадаволены, што "паламаўся" "баявы строй"... І глядзеўся ён назаўтра з экрана амаль святым анёлам — такі прычэсаны, прыгладжаны, з лагоднай — усмешкай ці што?, з прывабным жаночаму воку паласатым трохкутнічкам цяльняшкі з-пад расшпіленай кашулі... А ўчора — вы бачылі? — ужо не твар ягоны быў страшны, а рука — з канвульсіўна выцягнутымі ўздоўж сцягна, як удвая падаўжэлымі, пальцамі, нягнуткімі, схопленымі сутаргаю (гэта кадр ці мізансцэна ў будучую п'есу Аляксея Дударава, — такое не прыдумаеш, такое не ўбачыш і ў кашмарным сне, — такое можа паказаць толькі само жыццё, наша жыццё, рэальнае, сучаснае...).

Ці бачылі вы гэта і ці задумаліся: перад якімі бедамі і перад якімі страшылішчамі ў вобліку чалавека мы стаім, апынуліся?..

І ці не ясна цяпер: якая вялікая праца чакае літаратуру. Ужо не місія, а праца — "асенізатарская", як сказаў бы Маякоўскі (мы яшчэ не раз успомнім яго "Клапа" — клапы павыпаўзалі з усіх шчылін, клапы прагнуць крыві... Гэта іх спажытак, штодзённы харч іхні...).

Праца па ачышчэнні душ людскіх ад маральнай пошасці і брыдоты, малітва натхнёным словам мастака за ўратаванне боскіх пачаткаў у чалавеку чакае нас...

Дзякуй за ўвагу!..

ПАМЯЦЬ

# Лепшае — у музыцы

У Магілёўскім музычным вучылішчы імя М. Рымскага-Корсакава прайшоў юбілейны вечар у гонар 100-годдзя першага дырэктара вучылішча Лазара Зісмана (1897—1964).

Ягонае імя добра ведалі ў свой час на Беларусі. У 1919 годзе ў Магілёве на базе рабочай музычнай студыі адкрылі першую дзяржаўную музычную школу ў Савецкай Беларусі. Хутка яе дырэктарам стаў Лазар Зісман, 23-гадовы таленавіты музыкант-самавук, сталяр па прафесіі.

Яркі музычны талент (ён граў на некалькіх інструментах), талент арганізатара, справядлівасць і патрабавальнасць у спалучэнні са шчодрай і добрай душой, — усе гэтыя якасці дырэктара першай у рэспубліцы музычнай школы дазволілі Лазару Маркавічу захаваць найвысокі аўтарытэт на многія гады і стаць дырэктарам Магілёўскага музычнага вучылішча, адкрытага ў 1937 годзе.

Ад пачатку 20-х Л. Зісман стварау у школе калектыў з адукаваных і спрактыкаваных музыкантаў. Сярод іх былі скрыпач А. Яўстратаў — выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі, А. Боркус — выпускнік Маскоўскай кансерваторыі, вучань У. Сафонава. Гісторыю і тэорыю музыкі вёў Ю. Дрэйзін, пазней вядомы беларускі музычны крытык (з ім Лазара Маркавіча звязвала вялікая дружба на працягу многіх гадоў). Дырэктар школы заражаў усіх выкладчыкаў сваім энтузіязмам і адданасцю справе. У цяжкія гады НЭПу, калі школа працавала на гасразліку, а выкладчыкі атрымлівалі жабрацкую зарплату, гэты энтузіязм дапамог школе выжыць.

Менавіта тады аркестр школы ўдзельнічаў у выкананні твораў М. Чуркіна: першай беларускай савецкай оперы "Вызваленне працы" (яна была пастаўлена ў Магілёўскім гарадскім тэатры) і сімфаньеты "Беларускія малюнкі".

З першых гадоў свайго існавання магілёўская школа і вучылішча, дзякуючы ініцыятыве Л. Зісмана, давалі шматлікія канцэрты для гараджан, наладжвалі лекцыі-канцэрты і публічныя экзамены. На штогадовыя справаздачныя канцэрты школы ў гарадскім тэатры цяжка было трапіць: зала не змяшчала ўсіх жадаючых.

Лазар Маркавіч любіў арганізоўваць конкурсы выканаўцаў і нават у самы цяжкі час знаходзіў сродкі для падарункаў пераможцам. Таленавітых дзяцей ён накіроўваў на вучобу ў сталічныя ўстановы. Так, напрыклад, паслаў вучыцца ў Маскву дзяўчынку з дзетдома Таню Скавародкіну — яна стала потым салісткай Вялікага тэатра Т. Талахадзе. Перавёў на вучобу ў Мінск скрыпача Мікалая Браценнікава — цяпер ён прафесар Беларускай акадэміі музыкі.

Да ўсіх студэнтаў Д. Зісман ставіўся як бацька — строгі, патрабавальны. Але і любіў іх. Ён разумеў патрэбы студэнтаў, дапамагаў ім, спачуваў. І кожнага ўцягваў у канцэртную дзейнасць: ці ў якасці салістаў-выканаўцаў, ці як удзельніка аркестра, хору (у хоры спявалі ўсе студэнты вучылішча). Вучылішча ён змог зрабіць родным домам для кожнага. Невыпадкова выпускнікі, скончыўшы ўжо і кансерваторыю, вярталіся сюды выкладаць. Гэта зрабілася традыцыяй.

Л. Зісман быў дырэктарам школы і вучылішча да 1956 года, а потым да канца свайго жыцця ўзначальваў толькі школу. Закладзеныя ім традыцыі з'явіліся тым падмуркам, які трывала трымае вось ужо 60 гадоў адну з вядучых музычных навучальных устаноў Беларусі — Магілёўскае музычнае вучылішча імя М. Рымскага-Корсакава. Тыя ж традыцыі дазволілі сем гадоў таму адкрыць у Магілёве педагагічны факультэт Беларускай акадэміі музыкі.

На юбілейны вечар прыйшлі шматлікія вучні Лазара Маркавіча. Сярод іх — былая студэнтка, прынятая ў вучылішча ў год яго адкрыцця, — Б. Гелер, старэйшыя выкладчыкі, якія многія гады адпрацавалі з Л. Зісманам, — А. Мысаў, М. Нікіцін, І. Паўлаў.

У канцэртнай праграме ўдзельнічалі выкладчыкі і студэнты вучылішча, а таксама ягоныя выпускнікі — цяпер студэнты педагагічнага факультэта БАМ. Гэта салісты, лаўрэаты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў; духавы і цымбальны аркестр; акадэмічны і народны хоры; ансамбль скрыпачоў, струнны квінтэт і квартэт медных духавых інструментаў. Дастойна закончыў праграму аркестр народных інструментаў педагагічнага факультэта пад кіраўніцтвам выпускніка школы і вучылішча, цяпер дырэктара вучылішча і дэкана педагагічнага факультэта, заслужанага дзеяча мастацтваў і заслужанага настаўніка Беларусі Л. Іванова. (Дарэчы, арганізатара вечарыны).

Зала была поўная... Удзячную памяць пра Л. Зісмана захоўваюць нават людзі, якія не навучаліся музыцы. Гэтага чалавека ў Магілёве ведалі ўсе, бо ён здолеў зрабіць вучылішча і школу культурным цэнтрам горада, тым духоўным асяродкам, да якога цягнуліся магілёўцы. З яго жыватворных спраў пачыналіся лепшыя музычныя традыцыі сённяшняга Магілёва.

**Вольга МАРОЗАВА,**
**выкладчык Магілёўскага**
**музычнага вучылішча**
**імя М. Рымскага-Корсакава**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю МАРЦІНОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" і часопіса "Крыніца" выказвае глыбокае спачуванне свайму калегу Алесю МАРЦІНОВІЧУ ў сувязі са смерцю бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Зіновію ПРЫГОДЗІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

# Нялёгка быць Сейбітам

## ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ СПАДЧЫНУ ФЁДАРА ЯНКОЎСКАГА

Я К І КОЖНЫ студэнт-філолаг, я не мог не ведаць імя выдатнага мовазнаўцы Фёдара Янкоўскага. Тым большай была радасць сустрэчы ў 1975 годзе з кнігай яго абразкоў.

*Мініяцюра, быль, невялікі аповед* — гэта звычайна падгледжаная ў жыцці з'ява або падзея, у якой, нібы ў расінцы, адлюстравана быццё ў яго *шматколернасці і разнастайнасці*, высвечаны парыў чалавечай душы ці момант праявы мудрасці. Таму кожны радок нібы "наэлектрызаваны" думкай і пачуццём, уражвае маральнай цнатлівасцю і ўнутраным тактам асобы, якую льга ўбачыць як у горадзе, так і ў вёсцы.

Ф. Янкоўскі пражыў яркае і змястоўнае жыццё, шмат бачыў у ім і шмат перабачыў, досыць пераважыў і меў уражанняў ад сустрэч з людзьмі і прыгожым, з людскасцю і чалавечнасцю, са злом і бядою. Ён не толькі хацеў, а і ўмеў расказаць пра ўсё гэта цікава і запамінальна.

Гэта цудоўна засведчана ў некалькіх кнігах яго прозы. Прозы па-свойму адметнай у нашай літаратуры, якая прыцягвае ўвагу не толькі саміх пісьменнікаў, а і таго дасціпнага чытача, які пастаянна мае патрэбу ў далучэнні да роднага слова.

Мова ў яго творах крынічна-народная, вобразная і каларытная, трапная і першародная, у ёй беражліва захаваны лад расповеду і гутарковасці. Яна мае адзнаку добрага густу, пазначана "пячаткай майстра" (М. Стральцоў).

Народ — гэта носьбіт і захавальнік найважнейшага свайго скарбу: Мовы. Руплівa, слоўка да прыказу, прымаўка да прыказкі, залацінка да залацінкі, збіраўся гэты скарб на працягу многіх стагоддзяў. Таму і не дзіўна, што гэткім самабытным дыяментам зіхціць у россыпе славянскіх моў наша родная мова. І як жа раўніва патрэбна берагчы яе *сёння, калі* гвалтам звужаецца сфера яе ўжытку і побыту!..

Выключна такою трывогай за яе лёс жыў увесь час Фёдар Янкоўскі. *Пра гэта* патрэбна памятаць, згадваючы яго і аддаючы даніну пашаны ўробленаму ім і зробленаму дзеля росквіту нашай нацыянальнай культуры. Над яго кнігамі не задрэмлеш, не засумуеш. Іх ніколі не адкладзеш не дачытанымі да апошняй старонкі. А над тымі старонкамі *ўзрадуешся і засумуеш*, узрушышся і пагаруеш, адчуеш далучанасць да духоўнага ў чалавеку і прасвятленне ўласных думак. Ёсць людзі *без прэтэнзій і амбіцый*, якія жывуць, каб спаўна спраўдзіць наканаванае ім на зямлі і цаніць кожнае імгненне быцця, каб пакінуць *пра сябе самую сціплую памяць*. Такім можна толькі шчыра зайздросціць. Яны былі і ёсць соль нашай нацыі...

Заўсёды з нязменным хваляваннем бяру ў рукі, перачытваю і гартаю старонкі кніг "Абразкі", "Прыпыніся на часіну", "Радасць і боль", "Само слова гаворыць". Але штораз асабліва кранае мяне абразок "Развітанне"...

Настаўніца Алена Адамаўна цяжка захварэла. Не памагла ёй і аперацыя. Яна ўсведамляе, што дні яе злічаны. Але не гэта трывожыць жанчыну. Яна не даруе сабе, што не змагла да канца правесці ўрокі ў выпускным класе, непакоіцца, як здадуць юнакі і дзяўчаты экзамены.

Хлеб педагога не з лёгкіх. Яна і цяпер не ведае, які след пакінула ў душы кожнага з вучняў. Хоць заўсёды старалася аддаваць ім усе душэўныя сілы і веды, жыла іх радасцю і трывогамі.

А ў выпускнікоў свае клопаты. Ад дырэктара яны ведаюць, што дактары прасілі як мага менш трывожыць настаўніцу. Але яны любілі яе і хацелі б паслаць запрашэнне на свой баль. Ды што напісаць, чым суцешыць дарослага чалавека? Ну які ў іх жыццёвы вопыт? А мо і няма такіх слоў, якія здольны памагчы безнадзейна хвораму...

Атрымалася так, што дзеці не напісалі і не паслалі настаўніцы ніякага запрашэння. Цяжкае выпрабаванне для неакрэплых душ. Магчыма, адно з самых першых. Іх будзе нямала. Да гэтага льга рыхтавацца. Такая мудрасць *пазнаецца праз вопыт і страты*.

Ф. Янкоўскі напісаў такі сказ: "Алена Адамаўна труднавала дні і ночы". Якое *трапнае знойдзена слова* — **труднавала**?! Яно ёмкае і экспрэсіўнае. На жаль, яго няма ў пятым томе ТСБМ.

**Труднавала** — значыць **стамлялася, выбівалася з сіл і цярпела пакуту, хвалявалася, што нарабіла небыту блізкім, і гаравала пра сваю бездапаможнасць.** *Ды ці мала яшчэ* колькі сэнсу можна адчуць і ўбачыць у гэтым харошым народным слове!

Перад выпускным вечарам настаўніца *папрасіла*, каб яе ўмылі, пераапранулі, памянялі бялізну і паклікалі майстра з цырульні. Яна рыхтавалася да сустрэчы з вучнямі і хацела б выглядаць такой, як заўсёды, — сабранаю, элегантнай.

Змучаная хваробай, роздумам і спадзяваннем, што вучні не забылі пра яе і адведаюць, яна знепрытомнела, заснула. Пісьменнік не тлумачыць прычыны яе знебыцця. Піша сцісла і не збіваецца на лішноты і тлумачэнні. Абразок мае свой тон, сваю напружанасць на пачуццё і думку. Таму многае ў ім "прачытваецца" па-за тэкстам.

Ачнулася яна прыцемкам, калі ў школе якраз павінен быў пачацца выпускны баль. Гэтаму верыш. Чалавек высокай духоўнасці не можа не быць чуйным. У яго нашмат шырэйшае біяполе, а таму ён "чуе" покліч блізкай душы яшчэ зводдаль.

А дзеці сапраўды ў гэты момант думалі пра яе. Сваім абуджэннем яна як бы загадзя зрэагавала на іх намер. Хоць на астатку сілы, але яна павінна была чакаць іх прыходу.

Яны гэта ведалі, яны ў гэта верылі. Гэта і абавязвала іх пайсці з вечара і пабачыцца са сваёй настаўніцай. Не выключана, што ў апошні раз.

Алена Адамаўна была вельмі добрым педагогам і чалавекам. Яна аддала сваім вучням шмат душы і сэрца, шмат ведаў і розуму. Усё гэта патрэбна ім пранесці па самастойным жыцці. Ужо тады, калі яе на свеце не будзе. Яны многім ёй абавязаны, *за многае ёй удзячны*.

Выпускнікі падышлі да балкона настаўніцы і "...неяк асабліва мякка пачалі паўтараць: "Алена Адамаў-на! *А-ле-на А-да-маў-на! А-ле-на А-да-маў-на!*"

Які тонкі псіхолаг пісьменнік Фёдар Янкоўскі! Як трапна і пераканальна перадае ён унутраны стан вучняў, што "**...без слоў і, здаецца, не кранаючыся зямлі**" падышлі, "**...сталі, замерлі як здранцвелыя**", а потым "**...неяк асабліва мякка пачалі паўтараць...**"

Як бачна, выпускнікі — гэта не толькі выхаваныя дзеці. Гэта ўжо і людзі, што стаяць на парозе сваёй сталасці. *Яны робяць* усё ўсвядомлена і асэнсавана. Яны ведаюць, да каго і ў які момант прыйшлі. Іх не трэба ўжо вучыць чуласці і далікатнасці.

Настаўніца свайго дачакалася. На шчасце, яна не памылілася ў іх, сваіх вучнях. Урэшце яна зразумела, што нездарма стала настаўніцай і пражыла сваё жыццё.

Гэта не магло не надаць Алене Адамаўне дадатковых сіл і ўпэўненасці ў сабе. Таму "...першы раз за апошнія чатыры тыдні яна сама ўстала з пасцелі. Першы раз за апошнія чатыры тыдні прайшла пакой, выйшла на балкон..."

Гэтая сустрэча значыла для настаўніцы вельмі шмат. Менавіта цяпер, перад смерцю. Яна, спакойная за свой адыход, лёгка мовіла: "Цяпер можна..."

Не, не пасля гэтага апошняга радка, а яшчэ за чатыры-пяць абзацаў да канца абразка на вочы міжволі нагортваецца сляза і пад горла падкочваецца камяк нязвыклай чуллівасці. Як не расчулішся, калі ў гэтым жыцці знакам трагізму пазначаны сам лёс чалавека, калі сустракаеш асобу і адчуваеш вышыню яе памкненняў і духу?!.

Але на свеце ёсць шмат чалавечнасці і чалавечнага. Трэба толькі ўмець іх заўважаць і бачыць. Трэба іх толькі належна цаніць.

Пісьменнік Фёдар Янкоўскі гэта бачыў, цаніў і расказваў пра прыгожае і харошых людзей гожа, мудра і ўсхвалявана. І мы ўдзячныя яму за такое бачанне жыцця і за такія маральныя ўрокі.

Але я мушу прызнацца, што асабіста мяне "Развітанне" гэтак кранае з другое прычыны. Я шчыра зайздрошчу тым, у каго ў *школе* была такая настаўніца. А яшчэ больш зайздрошчу тым, у каго ў школе быў выпускны вечар.

*У мяне яго, на жаль, не* было. Не па ўласнай віне. Проста пасля дзевяці класаў мяне ўмоўна выключылі са школы. Каб папомсціцца і прыпалохаць. І, галоўнае, што без дай жа прычыны! Толькі за тое, што зрэдчас падпускаў "шпількі" праз раёнку на адрас выпівохі — старшыні калгаса. А недалёкі дырэктар школы паслугаваў свайму лепшаму сябру. Дробная і нікчэмная помста.

Яна насмяшыла ўсю вёску. Але гэта не ўсцешвае, бо *прамаўчалі* тады *настаўнікі*. А былі ж сярод іх і неблагія...

Перачытваючы "Развітанне", я абавязкова штораз згадваю і сваю дарагую настаўніцу — выкладчыцу Мазырскага педінстытута Лідзію Іванаўну Прашковіч, сястру добра знанага ў свой час Міколы Прашковіча. Не толькі таму, што яна заўважыла мяне і падтрымала. Хоць і гэта значыць нямала.

Перадусім гэта быў выдатны спецыяліст, улюбёны ў літаратуру, вельмі сціплы і сарамлівы чалавек.

Згадваецца такое. Аднойчы перад званком выкладчыца аб нечым папрасіла маіх чатырох аднакурснікаў. На лекцыі я астаўся адзін з дзяўчатамі. Было крыху і няёмка. Таму запытаў, куды ж пайшлі хлопцы.

Выкладчыца сумелася, адале патлумачыла, што папрасіла іх пакалоць дровы. Разам з сяброўкай яны жылі ў старым інтэрнаце, дзе паліліся грубкі. Я сказаў, што пайду з імі. Яна не пярэчыла.

Піла і сякера — звыклыя для рук вясковых хлопцаў прылады. Працавалася нам усмак і ўвішна. Крыху больш як праз дзве гадзіны яшчэ здалёку я заўважыў выкладчыцу. Яна спяшалася з інстытута. Лёгка было здагадацца, што потым яна абавязкова запросіць памочнікаў на пачастунак.

Сядзець з ёй за адным сталом, нешта браць з талерак і есці пры ёй? Не, на падобнае святатацтва мяне не хапала. Я ж уяўляў, што жыве яна зусім не так, як усе людзі, што яе жытло акружана нейкай адметнаю аўрай. Ёсць жа мяжа, якой нельга пераступаць у чалавечых адносінах!

Было тут *яшчэ* і вясковае, прывітае змалку. Калі ў хаце госць, то на стол абавязкова ставілі лепшае, з прыхаваных запасаў. Нам тады катэгарычна *забаранялася* быць пад рукамі ў дарослых. Можна было толькі прашмыгнуць у другі пакой з вуліцы ці на вуліцу. Так прывівалася *нам пачуццё сарамлівасці*.

Гэтаксама ў гасцях. Можаш нешта і ўзяць, але не капрызь і не скнарнічай. Ва ўсім *трэба* знаць меру!

Святая навука нашых мудрых бацькоў!

Упэўнены, што менавіта твой адгалосак пачуў я тады *перад прыходам* выкладчыцы. Таму і пакінуў сваіх аднакурснікаў.

Потым яны расказвалі, што выкладчыца гэтаму не здзівілася і нават не папытала, чаго ж мяне няма. Распавядалі, як і чым яна іх частавала, і ніяк не маглі зразумець майго ўчынку.

І што я мог ім патлумачыць?!

...Павечная людская ўдзячнасць Сейбітам: за хлеб і спагаду, за мудрасць і дабрыню.

**Алесь ЛІСІЦКІ**

*г. Петрыкаў*

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Спартыўныя гульні? Глыбокі ўздых, знак расчаравання. Няма пакуль што ў нас сваіх майстроў забівання... "Народны мастак", "народны артыст", а дзе, скажыце, "народны рэгбіст", дзе "хакеіст народны"? Чуеце на трыбунах свіст, не атрымліваецца ў нас са спартыўнымі гульнямі, згодны? Ды ёсць усё ж надзея, што і ў Забалоцці заднее, вунь колькі нас на стадыёнах балдзее! Адчайвацца не будзем, з намі лепшыя людзі!

●

Хто там смяецца апошнім, апошнім можа кожны. Гэтак як проста, браткі, апошнім запляскаць у ладкі. А вось рассмяяцца першым ты, разявака, зможаш? Смех — экзамен на дзёрзкасць, а на дзёрзкасць здольны не кожны. Вечная няўвязка з гэтым смяяцца ці пляскаць.

●

Пагалоска наперадзе цябе бяжыць, будзь ты летуценнікам ці зухам. Пра ката казалі: "Мышэй пайшоў лавіць", а ён толькі шум лістоты слухаў. А што да шуму спрычыніліся мышы, дык так яно выйшла.

●

— У цябе столькі ног, як ты іх не ламаеш? — спытаўся конік у сараканожкі. — Што ты на дваіх скачаш — гэта твая ўдача, — адказала сараканожка, — але колькі да тых дваіх у цябе запасных? Маўчыш, нядбалец, не стракочаш. То-та ж!

●

Абураўся: колькі ў нас выяў гэтага карніка маскоўскага, ці не ў кожнай установе з кратамі. А хіба не было ў Вялікім княстве Літоўскім сваіх катаў! Дык ад якой спадчыны мы адракаемся і якую прымаем, каго з карнікаў бяром у напарнікі? І каму ставіць абеліскі — далёкім ці блізкім?


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2332-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2332-525, 2331-985 |
| **АДДЗЕЛЫ:** | |
| публіцыстыкі — | 2332-525 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2331-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2332-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2331-985 |
| паэзіі і прозы — | 2332-204 |
| музыкі — | 2332-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2332-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2332-462 |
| навін — | 2332-462 |
| мастацкага афармлення — | 2332-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2332-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4282
Нумар падпісаны ў друк 7.5.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999

Заказ 2481/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12